№ 21 (954) 8 чэрвеня 2016 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



**Беларускамоўныя школы**

Старонка 6.

## Новы этап

Падпішыся на штомесячнік «Наша Ніва»: добрая аналітыка, рэпартажы, гутаркі, гісторыя і літаратура. **Старонка 2.**

# Еўра-2016

10 чэрвеня матчам Францыя — Румынія распачнецца 15-ы чэмпіянат Еўропы па футболе. Старонкі 8—9.

## Ці здольная праеўрапейская апазіцыя стварыць адзіны спіс на парламенцкія выбары?

«Калі хтосьці камусьці будзе замінаць, то гэта людзі не зусім нашыя».

Аляксандр Лукашэнка сваім указам прызначыў 11 верасня датай выбараў у Палату прадстаўнікоў. Ад вынікаў гэтай кампаніі залежыць лёс часова прыпыненых санкцый і пытанне легітымізацыі беларускага парламента, які ўжо 20 гадоў як нелегітымны.

Прадстаўнікі Еўрасаюза і Дзярждэпа ЗША падчас нядаўніх візітаў у Беларусь так і казалі, што справа выбудоўвання адносінаў з Беларуссю залежыць ад таго, як пройдуць выбары.

Для Захаду толькі дэмакратычная краіна можа быць паўнавартым партнёрам. А дэмакратычнай краіна можа быць толькі тады, калі ў ёй уладу ўраўнаважвае адказная апазіцыя.

Аляксандр Лукашэнка акрэсліў крытэр, якім мусіць валодаць кандыдат у дэпутаты — «быць прыхільнікам беларускай незалежнасці».

Між тым у Беларусі Цэнтрвыбаркамам па-ранейшаму кіруе Лідзія Ярмошына, а ў камісіях будуць засядаць вылучэнцы аднаго боку. Гэта значыць, сістэма падліку галасоў застанецца нязменнай.

У такіх умовах апазіцыя можа чагосьці дасягнуць, толькі калі выступіць адзіным фронтам, калі ў яе будзе адзіны спіс кандыдатаў.

Але як яго стварыць? Мы запісалі думкі лідараў рухаў і рэгіянальных актывістаў, каб вы самі маглі рабіць высновы.

**Андрэй Дзмітрыеў,** лідар кампаніі «Гавары праўду»:

На гэтых выбарах адзіны спіс не з'яўляецца самамэтай, варта аддаць усё ў рукі мясцовых акругаў. Бо лідары лезуць са сваёй каардынацыяй, сваімі старымі крыўдамі і эмацыйнымі траўмамі, так бы мовіць.

Працяг на старонцы 3.



ФОТА З ФЭЙСБУКА АЛЯКСЕЯ ЯНУКЕВІЧА

Карціна Рэмбранта: лідары беларускай апазіцыі гуляюць у настольны футбол. Злева направа: Юрась Губарэвіч, Анатоль Лябедзька, Аляксей Янукевіч, Сяргей Калякін.

## 9 беларускіх гарадоў, якім варта вярнуць спрадвечныя назвы

Дзяржынск, Кіраўск, Вехнядзвінск…

У рамках дэкамунізацыі ва Украіне сёлета перайменавалі Днепрапятроўск. Горад, названы ў гонар савецкага партыйнага дзеяча Пятроўскага, стаў проста Дняпром. Але тое — ва Украіне.

Мы ж склалі спіс беларускіх месцаў, якія варта б перайменаваць без гвалтоўных законаў, а проста кіруючыся здаровым сэнсам. Зрэшты, не так і шмат нашых гарадоў пацярпела ад савецкіх наватвораў.

**Дзяржынск — Койданаў, Крутагор'е**

Дзяржынск — сёння гэта горад у Мінскай вобласці з насельніцтвам у 25 тысяч чалавек.

Месца моцна пацярпела ад бальшавікоў — за іхняй уладай у горадзе зруйнавалі старажытны Кальвінскі збор і пераназвалі месца ў гонар пачынальніка «чырвонага тэрору» Фелікса Дзяржынскага.

Але ў гэтага горада ёсць яшчэ дзве назвы. Першая, міфічная, якая сустракаецца ў летапісах і ў творах Караткевіча, — Крутагор'е.

Таксама гэтае месца цягам стагоддзяў называлася Койданавам у гонар татарскага ваяводы Койдана, якога ці то разбілі ў тых ваколіцах, ці то ён сам наняўся служыць у ВКЛ і меў сядзібу непадалёк. Пад гэтай жа назвай месца атрымала Магдэбургскае права.

Сёння пра гістарычную назву месца нагадвае толькі зрусіфікаваная назва чыгуначнай станцыі — Койданава. Але правільна па-беларуску будзе казаць усё ж Койданаў.

**Г.п. Акцябрскі — Рудабелка**

Вёска Рудабелка вядомая здаўна — у 2007 годзе там адзначылі 500-годдзе.

Але яшчэ ў 1954 годзе бальшавікі аб'ядналі яе яшчэ з параю вёсак — Карпілаўкай і Рудняй. І ў выніку атрымаўся... гарадскі пасёлак Акцябрскі!

Тапонім «Акцябрскі» ўвогуле супярэчыць беларускай мове, бо ў нас такога слова няма.

А спрадвечнасць назвы Рудабелка замацаваная на гербе месца ў выглядзе трох рудых вавёрак на жоўтым полі.

Працяг на старонцы 5.

# Віталь Гуркоў стаў «народным чэмпіёнам»

У фінале чэмпіянату свету па муай-тай катэгорыі да 75 кілаграмаў у фінале Гуркоў перамог Экапана Самбаансаба з Тайланда, які не саступаў у баях ужо 4 гады запар.

У інтэрнэце Гуркова прazвалі «народным чэмпіёнам». Рэч у тым, што паездка Гуркова на першынство ў Швецыю была пад пытаннем: у зборнай нібыта не маглі знайсці грошы.

У адказ на гэта грамадскасць за адзін дзень сабрала неабходную суму ў некалькі тысяч еўра.

Адразу пасля бою — Гуркоў яшчэ не разматаў бінты — ён перадаў прывітанне свайму трэнеру Змітру Пясецкаму. А на ўзнагароджванне «народны чэмпіён» з'явіўся з дзяржаўным сцягам і ў майцы з нацыянальным гербам «Пагоня».

«Кожны раз як першы, — расказаў Гуркоў пра чэмпіянат у інтэрв'ю «Белсату». — Няпростыя былі ўмовы. І адметна тое, што шмат было абставінаў, складанасцяў. Ёсць таксама асабістыя рэчы: і дзядзька мой родны падчас паўфіналу быў на аперацыйным стале. Рабілі аперацыю на сэрцы... Павіншавалі мяне сябры і абдымалі, ледзь на руках не насілі.



А што цішотка? Якія маглі быць пытанні да цішоткі? А вы любіце Спанч Боба, напрыклад? А я вось люблю такую цішотку», — сказаў Віталь Гуркоў.

«Цішоткай» моладзь называе майку.

Гэты чэмпіянат склаўся для беларусаў надзвычай удала — у агульным медальным заліку мы другія з 5 залатымі, адной срэбранай і чатырма бронзавымі медалямі.

Чэмпіёнамі свету сталі Віталь Гуркоў, Анатоль Ванакаў, Зміцер Валент і Андрэй Герасімчук.

Дзяніса Ганчаронка шведскі медык не дапусціў да фіналу праз павышаны ціск.

Сярод дзяўчат золата мае Алена Ляшкевіч.

## Рэдактар NN.BY упершыню быў запрошаны ў «Клуб рэдактараў» на БТ

Запіс праграмы адбыўся ў пятніцу 27 мая, у эфір яна трапіла ў нядзелю 29 мая. Рэдактар «НН» Андрэй Дынько быў адзіным з рэдактараў недзяржаўных СМІ на праграме. Яму давялося весці дыскусію з кіраўнікамі Белдзяржтэлерадыёкампаніі, агенцтва БелТА, «Советской Белоруссии» і «Звязды». Яго спрабавалі падлавіць на тым і другім, але ён забіў пару прыгожых «галоў».

Запіс праграмы можна пабачыць на NN.BY.

### Апытанне на nn.by

**Як па-вашаму, ці варта рэдактару НН браць удзел у праграмах дзяржаўных тэлеканалаў, якія ідуць у запісе?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 912 | 44% |
| Не | 359 | 17% |
| Залежыць ад праграмы | 139 | 7% |
| Залежыць ад сітуацыі | 198 | 9% |
| Залежыць ад тэмы | 84 | 4% |
| Нельга ім верыць | 393 | 19% |

Агулам прагаласавалі 2085 карыстальнікаў.

### Цытата

## «Вы лічыце нармальным, што журналісты пішуць, якая ў мяне кватэра?»

Падчас выступу ў парламенце міністр працы і сацыяльнай абароны Марыяна Шчоткіна абурылася, што нехта з апанентаў улады даўно даведаўся яе адрас: «Ён апублікаваны, і нават многія журналісты ўжо вылічылі, якая ў мяне кватэра, колькі я плачу за камунальныя паслугі. Вы лічыце гэта нармальным?» — дадала яна.

Матэрыял «Колькі заплаціць за камуналку за студзень Ярмошына і Шчоткіна?» быў апублікаваны ў «Нашай Ніве» ў лютым 2016 года і быў прысвечаны росту цэнаў на камунальныя паслугі.

## Лучанок: «Амерыканскі даляр павінен абрынуцца, а Расія адродзіцца»

У выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» выйшла кніга інтэрв'ю Зіновія Прыгодзіча са знакавымі постацямі беларускай культуры. Адна з гутарак — з Ігарам Лучанком, частка яе прысвечана палітычным поглядам кампазітара.

Прыводзім цікавыя вытрымкі:

* * *

«Між іншым, Савецкі Саюз разваліўся не сам. Яго дапамаглі разваліць. І вельмі моцна дапамаглі. Але я вам скажу адну рэч: амерыканскі даляр таксама павінен абрынуцца. А вось Расія адродзіцца. Пуцін — наш чалавек. Шкада толькі, што вакол яго круціцца шмат рознай драбязы».

* * *

«Ведаеце, у мяне жыве ўстойлівая пагарда да ўсялякіх пярэваратняў, перабежчыкаў, адным словам, да здраднікаў. Ведаю аднаго былога партыйнага работніка, які цяпер зрабіўся самым вялікім антысаветчыкам. Гэта альбо хворы чалавек, альбо падлюга. Бо хіба можна, адслужыўшы не адзін дзясятак гадоў гэтай сістэме, пасля паліваць яе брудам?»

* * *



«Я выхаваны камсамолам. Ленінскім. І ад Леніна не адракаюся, як іншыя. Не адракаюся і ад камуністычнай партыі, у якой знаходзіўся не адзін год. Я — камуніст. І заўсёды ім быў. Сапраўдным. Партыйны білет і ўліковую картку захоўваю да гэтага часу».

* * *

«Сталін — неадназначная асоба. Але што дзіўна: з гадамі цікавасць і сімпатыя да яго не змяншаецца. А здаецца, нават узрастае. Вось зараз, напрыклад, хочуць перайменаваць Валгаград у Сталінград. Чаму? Таму што Сталін пры ўсіх сваіх злачынствах усё ж такі Маскву адстаяў. І краіну таксама».

БЮ

### Сцісла

**«Джона Сільвера» экстрадзіравалі ў Беларусь**

Беларускага блогера Эдуарда Пальчыса, заснавальніка сайта *1863x.com*, вядомага ў інтэрнэце як Джон Сільвер, этапавалі з Бранскага СІЗА ў Беларусь. Ён знаходзіцца ў следчым ізалятары на Валадарцы ў Мінску.

**Невядомая атрута пад Карэлічамі**

Тры чалавекі памерлі ў вёсцы Некрашэвічы (дарэчы, малая радзіма Уладзіміра Макея) пасля ўжывання невядомай спіртазмяшчальнай вадкасці. Напярэдадні ў госці да дваіх аднавяскоўцаў прыйшла 51-гадовая жанчына, якая прынесла з сабой паўтаралітровую бутэльку з вадкасцю. Кампанія выпіла яе, і праз некалькі гадзін пасля гэтага ўсе трое памерлі.

**Віктар Ганчарэнка ўзначаліў «Уфу»**

Пагадненне з беларускім трэнерам разлічана на два гады з магчымасцю падаўжэння кантракта яшчэ на адзін сезон. Папярэднім месцам працы беларускага спецыяліста быў ЦСКА, дзе ён быў старшым трэнерам. У кантракце Ганчарэнкі прадугледжана, што ў выпадку запрашэння з боку ЦСКА ён можа з'ехаць з «Уфы».

**Памёр шахматыст Віктар Карчной**

У 1974 годзе Карчной з'ехаў з СССР, пасля чаго атрымаў швейцарскае грамадзянства. У СССР ён лічыўся невяртанцам, праз што сям'ю шахматыста мучылі. Карчной двойчы гуляў матчы за званне чэмпіёна свету з Анатолем Карпавым, але абодва разы прайграў. Матчы праходзілі ў 1978 і 1981 гадах.

БЮ

### Апытанне на nn.by

**Ці падаецца вам прымальнай рэклама, дзе тавар прасоўваецца з дапамогай агаленага жаночага цела?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 446 | 37% |
| Не | 384 | 32% |
| Як калі | 238 | 20% |
| Не ведаю, не бачыў, пакажыце | 136 | 11% |

Агулам прагаласавалі 1204 карыстальнікі.

### Самае чытанае на nn.by за 25 мая — 7 чэрвеня

1 9 беларускіх гарадоў, якім варта вярнуць спрадвечныя назвы
2 «Непазбежна межы постсавецкіх дзяржаў будуць перагледжаныя». Што плануюць для Беларусі расійскія дзяржаўныя аналітыкі?
3 Надзея Саўчанка вярнулася ва Украіну. Яна выйшла з самалёта босай
4 Як немцы прасоўваюць новыя тэхналогіі, пра якія ў Беларусі яшчэ і не чулі
5 Асцярожна, цыкута! Адпачынак на прыродзе можа стаць смяротным
6 Здзейсніў самагубства бізнэсмен Яўген Дзягцярык
7 Віктар Лукашэнка прыйшоў на апошні званок да старэйшай дачкі Вікі
8 Рэдактар NN.BY упершыню быў запрошаны ў «Клуб рэдактараў» на БТ
9 Выкладчык БНТУ знойдзены павешаным у аўдыторыі
10 Віталь Гуркоў стаў чэмпіёнам свету па муай-тай

# «Калі хтосьці камусьці будзе замінаць, то гэта людзі не зусім нашыя»

Працяг са старонкі 1.

Трэба проста сказаць людзям на месцах: вы што, балатуецеся ў адной акрузе?

Ну дык самі і вырашайце, як вам лепей гэта рабіць: разам і каардынавацца разам ці здымацца камусьці. Я ўпэўнены, што на месцах людзям працей разабрацца, калі ім не ўстаўляюць палкі ў колы лідары. А дзе насамрэч патрэбна агульная каардынацыя, гэта ў іншых чатырох кірунках. Першае — супольнае правядзенне сустрэч з выбарцамі і пікетаў. Я тут з досведу кампаніі 2012 года ведаю, што большасць людзей будуць абыякавымі, а грамадская ўвага нізкай. Таму трэба супольна рыхтавацца да дэбатаў, каб усе бачылі, што вось прагрэсіўныя сілы, якія выступаюць за перамены, хай яны па-рознаму іх бачаць, але яны разам. А вось з другога боку ўлады, якія кажуць, што ўсё добра, давайце яшчэ пачакаем. Ну і вылучэнне людзей ва ўчастковыя камісіі і супольнае назіранне. Вось гэтыя чатыры кірункі. Гэта не ідэальны сцэнар, але практычны, мы думаем так. А прымусовы адзіны спіс — гэта прыводзіць толькі да новых сварак, якіх і так забагата.

**Юрась Губарэвіч,** першы намеснік старшыні руху «За свабоду»:

Сёння ніякім чынам ужо нельга скласці адзіны спіс. Гэта трэба было пачынаць рабіць яшчэ год, два гады таму. Нават на прыкладзе правацэнтрысцкай кааліцыі — нам давялося ўзгадняць тры свае спісы на гэтую кампанію, што запатрабавала шмат часу і кампрамісаў. А што тады гаварыць пра супольны спіс? Цяпер праца ідзе ў тым кірунку, каб не перашкаджаць адзін аднаму. Сёння стала дзейнічае нарада дэмакратычных сілаў. Мы маем уяўленне па ўсім спектры: структуры левых сіл, правых, Партыі БНФ. Агулам скажу, што каля 180 кандыдатаў налічваюць усе спісы. Гэта значыць, што ў 50 акругах не будзе перасячэнняў дэмакратычных кандыдатаў. А там, дзе ёсць некалькі, то яны будуць каардынаваць сваю дзейнасць — супольна выступаць на пікетах і на зборах подпісаў. Таксама недзе патрэбны некалькі кандыдатаў ад дэмакратаў для арганізацыі дэбатаў, бо калі ўмоўны кандыдат ад улады адмовіцца ад дэбатаў, а ў яго там толькі адзін канкурэнт, то адной заяўкі можа не хапіць для іх правядзення.

**Іван Шэга**, хірург са Слоніма, сябра Сойму Партыі БНФ:

На гэтую кампанію ў рэгіёнах няма сродкаў. Да таго ж людзі сёння дублююцца ў розных спісах, іх менш. Нават тут, у нас у Слоніме, ёсць дэмакратычнае згуртаванне, ад якога буду балатавацца я, але тут яшчэ адзін таварыш ад Хрысціянскай дэмакратыі хоча. І цяжка ўгаварыць чалавека зняцца. Людзі не хочуць ісці на кампраміс. Але я думаю, што ўсё стане на месца да выбараў. Мы стварылі моцную каманду, незалежную ад цэнтральных лідараў.

**Мікалай Статкевіч**, былы кандыдат у прэзідэнты:

Адзіны спіс і аб'яднанне магчымыя. Але пакуль ёсць розныя чыннікі, унутраныя і вонкавыя, якія гэтаму замінаюць. Найперш, гэта амбіцыі, жаданне раскручваць свае арганізацыі і партыі. Але парламенцкія партыі і 20 гадоў без парламенцкіх выбараў — гэта смешна. Знешнія чыннікі — улада, якая працуе супраць аб'яднання. Сёння мы працуем на аб'яднанне і пераадольванне эгаістычных меркаванняў. І пачынаць тут трэба нават не з адзінага спісу, а з супольнага палітычнага аб'яднання, якое аб'яднае ўсіх і рашэнні якога будуць мець абавязковы характар. Гэтага баяцца ўлады.

**Ігар Барысаў**, журналіст з Магілёва, першы намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада):

Я думаю, аб'яднацца немагчыма. Тут патрэбна супольнае бачанне сітуацыі. Каб адзін фармат для ўсіх быў. А то кожны пераследуе выключна свае мэты, не думаючы пра будучыню краіны. У той жа час усе цудоўна разумеюць, што выбараў няма і не будзе, наўрад ці яны адбудуцца адкрытымі. І тое, што Ярмошына застаецца на пасадзе, — гэта сігнал, што нічога змяняцца не будзе. І ў такіх умовах не блага, калі будзе некалькі кандыдатаў на месца ад апазіцыі. Нават узяць стандартныя сем хвілін дэбатаў на аднаго. Пяць чалавек ад дэмакратаў — і вось ужо 35 хвілін людзі будуць гаварыць пра сітуацыю ў краіне, якая адрозніваецца да афіцыйнай. Хацелася б, вядома, каб быў адзіны спіс, а пакуль яго няма. Бо ёсць шэраг арганізацый, якія зарэгістраваныя, а ёсць аргкамітэты і лідары, яркія вядомыя, але не маюць арганізацыйных структур, і як гэта спалучыць? Пакуль гэтае пытанне не будзе вырашана, гаварыць пра нейкае канчатковае аб'яднанне не выпадае.

**Анатоль Лябедзька**, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі:

Адзіны спіс патрэбны падчас выбараў, але выбараў няма. Таму ўзгоднены спіс — вось што актульна. А любымі высілкамі дамагацца аднаго кандыдата будзе неэфектыўна. Трэба паспрабаваць зрабіць узгоднены спіс, вызначыць моцных кандыдатаў, стварыць ім умовы для правядзення кампаніі — фінансаванне кампаніі ўзмацніць, пікеты, яшчэ што. Вось так трэба дзейнічаць.

**Алег Трусаў**, старшыня Таварыства беларускай мовы імя Скарыны:

Па-першае, калі хтосьці камусьці будзе замінаць, то гэта людзі не зусім нашыя. Я разумею яшчэ, каб галасы лічыліся... Таму я маркую, што ўсе патрыёты мусяць падавацца, а ўжо потым будзем рабіць сход зарэгістраваных кандыдатаў. Трэба сабраць як мага болей патрыётаў, каб яны праводзілі кампанію па-беларуску — гэта будзе адказ рускаму свету, каб адразу па некалькі чалавек ішлі на месца. А потым трэба сабраць агульны сход тых, хаго зарэгіструюць, і выпрацаваць супольную праграму, дзе кожны зможа дадаць штосьці сваё. Напрыклад, ТБМ прапануе зрабіць парламент беларускім, каб усе законы прымаліся па-беларуску, іншыя прапануюць іншыя пункты, і з адзінай праграмай пойдзем на выбары. Зараз трэба вылучыць максімум людзей. І не Статкевічу з Шушкевічам вызначаць, хто дэмакрат, а хто не. Народ вырашыць.

**Павал Севярынец**, лідар аргкамітэта па стварэнні Беларускай хрысціянскай дэмакратыі:

Па-першае трэба сказаць, што спіс дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў ужо гатовы і «палатка» сфарміраваная незалежна ад таго, што будзе рабіць дэмакратычная супольнасць. І тут трэба вырашаць: альбо байкатаваць, альбо браць удзел. У нас у партыі ёсць прыхільнікі як аднаго, так і другога падыходу. І таму мы прынялі рашэнне, што як структура БХД не ўдзельнічае, але асобныя сябры могуць выкарыстоўваць гэтую кампанію для працы з людзьмі. Калі б былі выбары, гэта б мела значэнне. Захад мог бы выставіць умову Лукашэнку: праводзіш свабодныя выбары, а мы здымаем санкцыі. Але такога няма, санкцыі прыпыненыя. Таму выглядае, што справа ідзе да легітымізацыі гэтай Палаты прадстаўнікоў. А гэта небяспека легітымізацыі тых антыканстытуцыйных і антыбеларускіх дакументаў, якія праводзіцца праз Палату прадстаўнікоў.

Апытваў Арцём Гарбацэвіч

Меркаванне

## Чаму Плошча на сёння недапушчальная

На мінулым тыдні рэдактара «Нашай Нівы» ўпершыню запрасілі на «Клуб рэдактараў» на БТ. «Што вы думаеце пра словы Аляксандра Лукашэнкі на перадвыбарчай нарадзе пра тое, што трэба падтрымаць тых кандыдатаў у дэпутаты, якія выступаюць за незалежнасць Беларусі?» — спытаў рэдактара «НН» Генадзь Давыдзька.

Рэдактар «НН» адказаў, што лозунгі лозунгамі, а людзям важна, хто будзе сядзець у камісіях і як будуць лічыць галасы. І яшчэ, сказаў, прэзідэнт Фінляндыі не праводзіць нарадаў, каго з кандыдатаў у дэпутаты падтрымаць. Выканаўчая ўлада там займаецца сваім, а заканадаўчая — сваім.

Рэдактар «Советской Белоруссии» на гэта адказаў: што вы хочаце, Фінляндыя незалежная амаль 100 гадоў, а Беларусь — толькі 25. І ў свой час Манергейм таксама звяртаўся да народа з заклікам галасаваць за тых ці іншых кандыдатаў, бо народ быў яшчэ не гатовы.

На гэтым гаворка перайшла да іншай тэмы, паскакалі па сцэнары далей ад паралеляў. А можна было нагадаць, што Манергейм ні з кім «саюзных дзяржаў» не будаваў, ён ставіў лінію Манергейма. І нават калі сфарміраваную з бялявых беларусаў «Фінляндскую народную армію» гналі на фінскія дзоты — «мінскія фіны ідуць на фінскія міны», горкі жарт тады хадзіў, 140 тысяч сваіх салдат Сталін тады паклаў у зямлю дзеля свайго захопніцкага плана, і ўсё дарма, — Фінляндыя заставалася парламенцкай дэмакратыяй ад моманту свайго заснавання, нават у перыяд Зімовай вайны.

Каб збудаваць моцную і паспяховую Беларусь, галоўнае, па-мойму, не лічыць сябе такімі самымі разумнымі. Наадварот, трэба ўмела выкарыстоўваць «найлепшыя прыклады» іншых еўрапейскіх народаў — той самай Фінляндыі. Яны ж такія, як і мы, толькі па-іншаму гавораць.

Лукашэнкаўцы сцвярджаюць іншае: нельга дапускаць у краіне дэмакратычныя выбары, бо іншаземныя сілы (чытай: Расія, — хоць яны публічна ніколі таго не кажуць) пачнуць умешвацца ва ўнутрыбеларускія справы на чыімсьці баку, што прывядзе да распаду краіны і страты незалежнасці.

На маю думку, гэта памылковая логіка. Наадварот, анексія не пагражае ніводнай дэмакратычнай краіне ў суседстве з Расіяй. Між тым становішча аўтарытарнай Беларусі застаецца настолькі няпэўным, падвешаным, што нават НАТА праводзіць вучэнні з адпрацоўкай катастрафічнага сцэнара. «Адна краіна» па суседстве анексуе «другую краіну» і на хвалі эйфарыі спрабуе захапіць адну з краін Балтыі. Пра якія краіны гаворка, тлумачыць не трэба. Гэтыя вялікія вучэнні адбудуцца ў Польшчы і другія — у Балтыі. Амерыканцы і натаўцы адпрацоўваюць марш-кідок сваёй брыгады з Германіі ў Прыбалтыку для вызвалення балтыйскіх краін.

А Беларусь хто будзе вызваляць у выпадку чаго? Ніхто, бо краіна не ўваходзіць у НАТА і Еўрасаюз. Будзе як з Украінай: калі ты не пад парасонам, то разбірайся са сваімі праблемамі сам. За чужых паміраць ніхто не будзе.

Так, калі ўявіць у Беларусі цяпер Плошчу, Майдан, то Масква стапрацэнтова ўмяшаецца, як калісьці ў Венгрыі ў 1956-м і Чэхаславакіі ў 1968-м. У 2006-м ці 1996-м было інакш. А цяпер — такая вось палітычная сітуацыя. Таму Плошча на сёння недапушчальная.

Так, дэмакратыя ў Беларусі на сёння можа ўвесці толькі сам Лукашэнка, прычым толькі ва ўдалы момант, калі Маскве будзе не да таго. Так, як Ярузэльскі ў Польшчы — у 1989-м. Як кароль Хуан Карлас, пераемнік Франка, у Іспаніі — у 1974. Там таксама гэта камусьці, напэўна, не падабалася, а хтосьці баяўся. Але паглядзіце, дзе цяпер мы, а дзе Іспанія, Польшча і Фінляндыя. Гэта памятаць трэба, гэтую мэту не выпускаць з вачэй.

Мікола Бугай

# «Машыну праводзяць поглядамі»

У Мінску бізнэсовец, былы настаўнік матэматыкі, упрыгожыў свой Mercedes GL «вышыванкай».

«Гэты арнамент азначае ўраджай, — расказаў Ігар Жабароўскі парталу Тут.бай. — Купіў на стоку вектарны малюнак і замовіў друк у арганізацыі, якая займаецца вырабам аўтамабільных налепак. Вышыванку надрукавалі на вінілавай плёнцы і налапілі на аўтамабіль. Я зрабіў гэта для сябе і не чакаў такой пазітыўнай рэакцыі людзей. Людзі на дарозе паказваюць «клас», проста махаюць. Нядаўна стаяў, наводзіў парадак у машыне, і да мяне падышла жанчына ва ўзросце, Інэса Іванаўна. Так дзякавала мне за вышыванку! Я разумею, што гэта рэальна працуе на ўзняцце духу патрыятызму», — успамінае Ігар.

А ДАІ? Наадварот — спыняць сталі радзей, кажа Жабароўскі.



# «Мінск — гэта магутная еўрапейская сталіца»

Пяць уражанняў **Сяргея Навумчыка** ад Беларусі пасля вяртання.

Палітык і журналіст Сяргей Навумчык прыехаў на радзіму пасля 20-гадовай эміграцыі. У 1996 годзе ён разам з Зянонам Пазняком пакінулі Беларусь, бо ім пагражала крымінальная справа за арганізацыю масавага шэсця «Чарнобыльскі шлях». Пасля тыдня знаходжання Навумчыка ў Беларусі мы папрасілі яго падзяліцца сваімі ўражаннямі ад убачанага на Радзіме.

Суразмоўца адразу адзначыў, што яго палітычныя ацэнкі і погляды засталіся ранейшымі.

### 1. Мінск — гэта магутная еўрапейская сталіца

«Калі мы ляцелі ў Мінск, я паабяцаў сабе не казаць нічога кепскага пра Беларусь пры 14-гадовай дачцэ Ані, якая ўпершыню наведвае гістарычную радзіму (пры гэтым яна мае беларускае грамадзянства). Ведаеце, гэта як прывезці дзіця ў бацькоўскую хату і казаць: вось тут нешта непафарбавана, шкло трэснутае, ганак асунуўся...

Мінск — гэта магутная еўрапейская сталіца, вельмі прыемны горад як у цэнтры (але трэба прызнаць, што і «Дом Чыжа», і «Кемпінскі» сілуэт цэнтра Мінска папросту знявечылі), гэтак і на ўскраінах. Я быў ва Уручча, Сухараве, у раёне вуліц Алібегава і Чурлёніса — гэта ўсё прыстойныя еўрапейскія кварталы. Я ўпершыню пабачыў адноўлены Верхні горад, адбудаваную Ратушу».

### 2. Прастор і дарогі

«Калі едзеш на машыне па Беларусі, то бачыш гэтыя бясконцыя палі і лясы, увесь прастор. Разумееш, наколькі яшчэ слаба заселеная людзьмі наша краіна і які вялізны патэнцыял праз гэта яна мае.

Што тычыцца дарог, то яны розныя, але ў прынцыпе на дастаткова добрым узроўні. Бо і ў Італіі ёсць не ідэальныя дарогі, нават у Нью-Ёрку таксама. Жонка ехала за рулём ад Мінска да Віцебска, дык гэты адрэзак яна параўноўвала якраз з італьянскімі дарогамі».

### 3. Модна апранаюцца

«Мая дачка кажа, што ў Мінску людзі вельмі прыгожа і стылёва апранаюцца. Магчыма, я не настолькі добра разбіраюся ў




модзе, больш кансерватыўны, але мне таксама падалося, што людзі сочаць за сваёй вопраткай, надаюць ёй шмат увагі. Існуе меркаванне, што на Захадзе, у той жа Празе ці Нью-Ёрку, людзі не засяроджваюцца на сваім адзенні, гэта сапраўды так. У кожнага народа існуе свая традыцыя стаўлення да адзення. Беларусы любяць выглядаць акуратна і прыгожа. І стаўленне мінчукоў тут мне імпануе больш.

Што тычыцца людзей, то яны не сталі больш разняволенымі ў параўнанні з 20-гадовай даўніной. Калі я з'язджаў, то ў краіне быў магутны пратэставы рух, цяпер такога маштабу няма і блізка. Я б сказаў, што сёння людзі знаходзяцца ў стане палітычнай апатыі».

### 4. Замест «рэспублікі» сталі казаць «краіна»

«Дваццаць гадоў таму вельмі часта ад звычайных людзей (не пісьменнікаў, апазіцыянераў ці журналістаў) можна было пачуць фразу кшталту: «у нас, у Саюзе», ці «у нас, у рэспубліцы». Цяпер нічога такога ўжо няма. Адбыўся пэўны крэн у свядомасці людзей. І я чую толькі: «у нас у Беларусі» ці «ў нас у краіне». Я не кажу, што гэтыя людзі абавязкова будуць бараніць Беларусь у выпадку расійскай агрэсіі, але грамадзяне прывыкаюць жыць у незалежнай краіне. І гэта вельмі важна».

### 5. Пастаноўка «Дзвюх душ»

«Мяне вельмі ўразіла пастаноўка «Дзвюх душ» Максіма Гарэцкага ў Купалаўскім тэатры. Мне падалося, што ў нацыятворчым аспекце гэты спектакль можна паставіць на другое месца пасля «Тутэйшых». Выдатная праца Мікалая Пінігіна.

Калі Беларусь набывала незалежнасць, то яна мела лепшыя пазіцыі ў параўнанні з суседзямі па многіх паказчыках, апроч нацыянальнай свядомасці. І гэты паказчык шмат у чым аказаўся вызначальным. На сёння ўжо Беларусь шмат у чым саступае сваім суседзям. Я б сказаў, што людзі жывуць небагата, хай і няма галечы. Тым не менш Беларусь застаецца незалежнай краінай, а ўсё астатняе можа хутка дадацца».

**Запісаў Зміцер Панкавец**

## Севярынец: Шкада людзей, якія хварэюць на гомасэксуалізм, займаюцца фемінізмам

«На мой погляд, гэта няшчасныя людзі. Проста няшчасныя. Іх трэба шкадаваць і дапамагаць чым можна, каб яны сталі на шлях здаровага розуму. Ёсць і страшнейшыя грахі, напрыклад, і нічым не лепшая за гомасэксуалізм сужэнская здрада. Але рабіць з гэтага норму не трэба і нельга. Гасподзь па-іншаму гэта зладзіў у свеце», — заявіў палітык Павал Севярынец.

Ён адрэагаваў на развагі сябра аргкамітэту па стварэнні Беларускай хрысціянская дэмакратыі Маргарыты Тарайкевіч пра стаўленне да ЛГБТ-супольнасці і прапанаваў ёй пакінуць шэрагі БХД.

«Агульны трэнд ва Усходняй Еўропе — рост традыцыяналізму і фундаменталізму, цэнтр якога — так званыя «сямейныя каштоўнасці». Гэта тычыцца і праваслаўных, і асабліва евангельскіх хрысціян-пратэстантаў. Гэта адпавядае ў цэлым настроям нашага грамадства, у якім узровень разводаў і абортаў нашмат большы, чым у Еўропе, але якое бачыць страшэнную пагрозу для сябе ў аднаполых шлюбах. Прыхільнікі БХД самі шчыра ў гэта вераць і хочуць атрымаць палітычную падтрымку грамадства», — пракаментавала сітуацыю тэолаг Наталля Васілевіч.

«Хрысціяне часта паўтараюць, што яны — гэта соль зямлі, і баяцца страціць сваю салёнасць. У талерантнасці да геяў, напрыклад, «салёныя» хрысціяне бачаць страту салёнасці, «прагін» перад светам, а ў непрыманні ЛГБТ — змаганне за Божы закон. Стагоддзямі існавалі хрысціянскія супольнасці, якія знаходзілі ў Бібліі апраўданне рабству, прыгоннаму праву, заханаванню смяротнай кары, не бачылі праблемы ў вынішчэнні мясцовага насельніцтва пры каланізацыі, а тых, хто выступаў супраць, — лічылі праціўнікамі Божых устанаўленняў. Але хрысціянскае сацыяльнае вучэнне развіваецца — часам услед за прагрэсам грамадства, часам у авангардзе гэтага прагрэсу. І я не пакідаю надзеі, што гэтае развіццё закране шырокія слаі вернікаў у Беларусі», — заключае Наталля Васілевіч.

**Паводле: Аляксандра Дынько, «Радыё Свабода»**

### Апытанне на nn.by

**Ці лічыце вы гомасэксуальнасць хваробай?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 81 | 20% |
| Не | 206 | 51% |
| Мне недаспадобы дэманстрацыя гомасэксуальнасці, але гэта не хвароба, а прыроджаная схільнасць | 110 | 27% |
| Я не ведаю | 10 | 2% |

Прагаласавала 407 карыстальнікаў

## Памёр Андрэй Тур

Чыноўніку было 62 гады.

Андрэй Тур быў сярод найвышэйшых службовых асоб краіны з 1995 года. Ураджэнец Ленінграда і выпускнік мінскага наргаса, які абараніў кандыдацкую дысертацыю ў 27 гадоў, а доктарскую — у 39, заняў пасаду намесніка міністра эканомікі. Ён быў адным з доўгажыхароў сярод намеснікаў міністра, займаючы гэтую пасаду да лістапада 2011 года. Міністры эканомікі мяняліся, а прафесар Тур заставаўся намеснікам.

У 2011-м годзе Тура прызначылі намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. Гэтую пасаду ён страціў напрыканцы 2013-га, пасля прэзідэнцкага разносу на «Барысаўдрэве».



Крытыку ў інтэрнэце ў свой час выклікала парада Тура «жыць па сродках».

У апошнія гады Андрэй Тур быў загадчыкам кафедры ў БНТУ, нядаўна перанёс аперацыю на сэрцы.

**СГ**

### Анатоль Лябедзька: Андрэй Тур кідаўся і біўся ў сцены калідора да апошніх сваіх дзён

«Андрэй Тур... Пра такіх кажуць: не ў той час, не ў тым месцы, — піша ў сваім фэйсбуку палітык Анатоль Лябедзька. — З выдатнай адукацыяй, з ліберальным мысленнем, ён бы арганічна ўпісаўся ў каманду рэфарматараў у Польшчы ці Літве. Але гэта Беларусь, бацюхна, наскрозь прапахлая, прасякнутая аўтарытарызмам, планавай эканомікай і палітычнай шызафрэніяй.

Андрэй Тур — гэта адказ на дыскусію ў асяроддзі прыхільнікаў пераменаў: ці варта ціснуцца ў гэтую сістэму? Любой цаной, любым шляхам. Мы чуем галасы: галоўнае туды прабрацца, і не важна, праз дзверы або акно, праз ложак ці ідэалагічную блізкасць, шчоўканне абцасамі або здольнасць гаварыць «не». А вось пракраўшыся ў логава, мы пачнём разбураць сістэму знутры. Усё з дакладнасцю да наадварот. Гэта сістэма разбурае, нівеліруе, ператварае людзей у штампаваныя дэталі. Толькі свабодныя, сумленныя выбары, толькі прынцып падзелу ўладаў, толькі незалежны суд даюць нам шанец заставацца самім сабой, быць рухавіком пераменаў, а не інградыентам кансервацыі сістэмы.

Андрэй кідаўся і біўся аб сцены калідора да апошніх дзён свaix...»




### Віктар Лукашэнка наймаў дачцэ рэпетытараў

Старэйшая ўнучка кіраўніка краіны Вікторыя Лукашэнка сёлета скончыла 16-ю мінскую гімназію. «Мы думаем паступаць у БДУ. Будзем глядзець у залежнасці ад таго, як экзамены здасць, але маркую, што гэта будзе звязана з эканомікай. Наймалі рэпетытараў — па матэматыцы, мовах, па ўсіх прадметах, якія будзе здаваць», — патлумачыў яе бацька, Віктар Лукашэнка.

# 9 беларускіх litарадоў, якім варта вярнуць спрадвечныя назвы

Працяг са старонкі 1.

Таксама Рудабелка вядомая праз існаванне г. зв. Рудабельскай рэспублікі — так называліся ваколіцы месца, дзе трымалася партызанская ўлада.

### Кіраўск — Старцы

У Кіраўску сёння жыве каля 9 тысяч чалавек. Раней гэтае месца называлася Старцамі. Але ў 1935 годзе бальшавікі стварылі Кіраўскі раён, названы так у гонар чырвонага функцыянера Сяргея Кірава, які ніякага дачынення да Беларусі не меў.

А яшчэ праз некалькі гадоў і Старцы перайменавалі ў Кіраўск як цэнтр аднайменнага раёна.

### Верхнядзвінск — Дрыса

Старадаўняя Дрыса вядомая яшчэ з часоў ВКЛ. Такая назва ўтвораная ад назвы аднайменнага возера, адкуль выцякае рака, на якой стаіць горад. Але ж у 1962 годзе Саветы перайменавалі месца ў Верхнядзвінск праз «немілагучнасць» старой назвы.

Пры гэтым мае месца фактычная памылка, бо Дрыса знаходзіцца, хутчэй, на сярэдзіне цячэння Дзвіны, чым у вяршыне.

Дарэчы, хоць назва горада і зменена на абы-што, герб у Дрысы захаваўся гістарычны — «Пагоня».

### Іванава — Янаў

Янаў, або Янова, меў сваю спрадвечную назву з XV стагоддзя, пакуль за Саветамі горад не перайменавалі на расійскі манер, Іванавам. Сёння тут жывуць 16 тысяч чалавек.

Менавіта ў месцы Янаў прасіў пахаваць сябе наш славуты мастак Напалеон Орда.

Сёння чыгуначная станцыя ў Іванаве называецца Янаў-Палескі.

### Чэрвень — Ігумен

Амаль 600 гадоў да з'яўлення ў Беларусі бальшавікоў сённяшні горад Чэрвень называўся Ігуменам.

У 1923 годзе камуністы яго перайменавалі праз сугучнасць назвы месца з царкоўным санам — чырвоныя ж былі бязбожнікамі.

Але гісторыкі, хутчэй, схіляюцца да версіі, што спрадвечная назва горада не мае нічога агульнага з царкоўнымі тэрмінамі, а паходзіць ад спалучэння старадаўніх каранёў.

Да таго ж у горадзе цячэ рэчка Ігуменка.

### Слаўгарад — Прапойск, Прапошаск, Прупой

Сённяшні горад Слаўгарад у Магілёўскай вобласці з XII стагоддзя быў вядомы як Прапошаск, ці Прупой, альбо Прапойск.

Так горад называўся яшчэ нават да таго часу, як увайшоў у ВКЛ. Але ў 1945 годзе яго перайменавалі.

Паводле легенды, так адбылося, бо нейкай чырвонай дывізіі меліся даць за вызваленне горада прыстаўку «Прапойскай», што гучала двухсэнсоўна. Таму, маўляў, для мілагучнасці назвы ваеннага фармавання горад перайменавалі ў Слаўгарад. Але гэта толькі легенда. Насамрэч ніякай Слаўгарадскай дывізіі створана ніколі не было.

### Светлагорск — Шацілкі, Шацілавічы

Шацілкі (націск на другі склад) — надзвычай старое месца.

Паводле археалагічных даследаванняў, паселішчы там існавалі ажно з VI стагоддзя. Але непасрэдна пад такой назвай месца ўпершыню ўзгадваецца амаль 500 гадоў таму.

У горадзе нават ёсць помнік Раману Шацілу, які ўвасабляе ў сабе заснавальнікаў месца.

Але ў 1961 годзе камуністы пераўтварылі гарадскі пасёлак Шацілкі ў горад і за нечым далі яму новую назву — Светлагорск.

### Дзятлава — Здзецел

Некалі Здзецелам валодаў сам Канстанцін Астрожскі. Месца так называлася яшчэ за чатырыста гадоў да таго, як на нашыя землі прыйшлі расійскія войскі.

Але ў 1866 годзе імперскія ўлады ў рамках «надання месцам рускіх назваў» перайначылі Здзецел у Дзятлава. Так ён называецца і дагэтуль.

Гэты спіс нам дапамаглі скласці гісторык Алег Трусаў і мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі.

Але што асабліва адзначылі нашыя суразмоўцы, дык гэта тое, што назвы вёсак і вуліц у Беларусі пацярпелі куды болей, чым назвы гарадоў.

Нават падлічыць цяжка, колькі за Саветамі ўзнікла розных «рассветаў», «вішнёвых», «ягадных», «савецкіх», «сірэневак» і «кастрычніцкіх».

Таму беларусы мусяць дбаць пра вяртанне спрадвечных назваў старым месцам.

Зрэшты, сёння мы жывём у сваёй дзяржаве, і прэцэдэнты паспяховага перайменавання ёсць: так, у Маладзечне амаль не засталося савецкіх назваў вуліц, а жыхары вёскі Магільна ў 1991 годзе вярнулі свайму паселішчу гістарычную назву, зафіксаваную ў летапісах — за Саветамі Магільна 12 гадоў называлі проста «Нёманам».

**Арцём Гарбацэвіч**



**Койданаўскі Кальвінскі збор у атачэнні старых замкавых муроў. Знішчаны Саветамі.**

# Дзе найбольш размаўляюць па-беларуску

Аграгарадок Ручаёўка знаходзіцца на сярэдзіне дарогі паміж Лоевам і Брагінам, гэта паўднёва-ўсходні край Беларусі. Паводле перапісу-2009, мясцовы сельсавет з'яўляецца самым беларускамоўным у краіне. Ручаёўкаўскія перапісчыкі занатавалі, што з 669 жыхароў дома па-руску размаўляюць двое, яшчэ двое на трасянцы. А ўсе астатнія — 99,4%! — па-беларуску.

«Наша Ніва» прааналізавала поўныя лінгвістычныя вынікі перапісу насельніцтва-2009.

### Тут размаўляюць толькі па-беларуску

Таксама 99% беларускамоўных зафіксаваныя ў Акцябрскім сельсавеце Клічаўскага раёна (цяпер ліквідаваны, яго тэрыторыя размеркавана паміж суседнімі сельсаветамі) і вёсцы Букча Лельчыцкага раёна.

Сельсаветы з такімі высокімі паказчыкамі раскіданы па ўсёй Беларусі — 98% сустракаюцца пад Глыбокім, Ашмянамі, Ганцавічамі, Мастамі, Столінам, Дзятлавам, Драгічынам, Быхавам...

З раёнаў у цэлым самымі беларускамоўнымі можна лічыць Клецкі (85,5%) і Іўеўскі раёны (84,2%). Яны аддаленыя ад вялікіх гарадоў, якія ў савецкі час былі цэнтрамі русіфікацыі.

### Розныя падыходы

Падчас апошняга перапісу колькасць тых, хто размаўляе дома па-беларуску, склала 23,4%. Гэта драматычнае падзенне з 37% у 1999 годзе. У буйных гарадах лічба ніжэйшая, у вёсках — вышэйшая.

Зразумела, што выніковыя лічбы шмат у чым залежалі ад падыходаў перапісчыка. У адным з сельсаветаў Мастоўскага раёна 96% дома размаўляюць ні па-руску, ні па-беларуску, ні-польску. А як тады? Відаць, перапісчыкі вырашылі ўзаконіць трасянку.

### Рускамоўныя максімумы

Пад Добрушам у Дзям'янкаўскім сельсавеце дома па-беларуску размаўляе толькі... 1 чалавек. А 98% — па-руску. Праўда, гэты анамальны сельсавет цяпер ліквідаваны.

Рэкардсменам па рускасці стала мястэчка Сураж пад Віцебскам. Тут зафіксаваны максімум — 99% жыхароў запісаныя як рускамоўныя. Падобная лічба — 96,3% — у суседнім мястэчку Руба.

А вось самыя рускамоўныя гарады на заходняй мяжы — Высокае (96%) і Камянец (95%)...

### Этнічныя меншасці русіфікаваліся

Колькасць тых, хто размаўляе на польскай, украінскай і іншых мовах этнічных меншасцяў, мінімальная — агулам каля 10 тысяч чалавек.

Украінскай карыстаюцца дома 6200 чалавек. Яны сканцэнтраваныя ў Жабінкаўскім і Маларыцкім раёнах, а таксама каля Белавежскай пушчы.

Па-польску размаўлялі дома 4200 чалавек, роўна палова з якіх — на тэрыторыі Гродзенскага раёна. Прымежны Сапоцкін — месца з максімальнай канцэнтрацыяй польскай мовы. 38% жыхароў тут заявілі, што размаўляюць на мове Мілаша.

**Ягор Марціновіч**

### Самыя беларускамоўныя мястэчкі*

| № | Мястэчка | Раён | % |
|---|---|---|---|
| 1 | Любча | Навагрудскі раён | 84,62% |
| 2 | Юрацішкі | Іўеўскі раён | 84,21% |
| 3 | Варапаева | Пастаўскі раён | 80,47% |
| 4 | Івянец | Валожынскі раён | 77,62% |
| 5 | Падсвілле | Глыбоцкі раён | 77% |
| 6 | Крывічы | Мядзельскі раён | 75,35% |
| 7 | Бобр | Крупскі раён | 73,26% |
| 8 | Шаркаўшчына | | 72,96% |
| 9 | Свір | Мядзельскі раён | 72,7% |
| 10 | Халопенічы | Крупскі раён | 71,71% |

### Самыя беларускамоўныя гарады*

| № | Горад | % |
|---|---|---|
| 1 | Клецк | 75,22% |
| 2 | Валожын | 65,38% |
| 3 | Глыбокае | 65,34% |
| 4 | Мядзел | 64,93% |
| 5 | Капыль | 64,76% |
| 6 | Іўе | 64,29% |
| 7 | Ляхавічы | 60,86% |
| 8 | Докшыцы | 59,67% |
| 9 | Тураў | 57,3% |
| 10 | Дзятлава | 53,7% |

*доля тых, хто падчас перапісу заявіў, што размаўляе дома па-беларуску

**Як дасягнуць 99,4%. Парады з Ручаёўкі**

«Трэба больш займацца выхаваннем дзяцей у навучальных установах, каб дзеці больш размаўлялі, у дамах культуры праводзіць беларускія мерапрыемствы — акурат жа год культуры, трэба ў гэтым кірунку і працаваць, — кажа старшыня Ручаёўскага сельсавета Валянціна Краўчанка. — Мы часта такія праводзім. У нас прыходзіць па 30—40 дзетак, ну і бацькі іхнія, таму болей атрымліваецца. Звычайна ў праграме спевы, танцы. У нас ёсць вакальныя групы, і дзіцячыя, і дарослыя. Яны беларускія песні людзям спяваюць, самі ды іншых вучаць».

**АЯ**

# Бацькі начавалі ў чарзе, каб запісаць дзіця ў першы клас беларускамоўнай гімназіі №23

У 5.30 раніцы ля мінскай гімназіі №23 ажыўлена: тут ужо сабралася каля 20 бацькоў, якія хочуць запісаць сваіх дзяцей-першакласнікаў у гэтую навучальную ўстанову. Усё выкладанне, уключаючы фізкультуру, тут вядзецца на беларускай мове.

Мужчына ў светлай камізэльцы прыйшоў сюды ў 4.40, каб запісаць у гімназію ўнука Кастуся.

— Я прыйшоў недзе ў 4.40 і быў 16-м. Было б добра, калі б унук вучыўся менавіта тут. Так, гэтая гімназія не адзіная у Мінску, дзе выкладаюць на беларускай мове, але ў астатніх, як кажуць, вучыцца больш дзяцей, якія штодзённа размаўляюць на рускай мове.

Ажыятаж тлумачыцца проста: у першы клас абавязаныя ўзяць усіх ахвотных, хто прапісаны ў гэтым раёне. Астатніх запісваюць на вольныя месцы. Колькасць месцаў абмежавана: першакласнікаў набіраюць у два класы па 25 чалавек, таму бацькі спяшаюцца заняць чаргу як мага раней — так з'яўляецца больш шанцаў трапіць у запаветны спіс.

На лавачцы побач з вялікім двухлітровым тэрмасам ляжыць папка — кожны павінен падысці і ў строгім парадку ўпісаць туды сваё дзіця, каб не заблытацца, хто за кім прыйшоў. Францішак, Алесь, Якуб, Кастусь...

За спісам старанна сочаць — падысці і ўклініцца ў першую дзясятку ніхто не зможа.

А шостай раніцы да прысутных падыходзіць мужчына ў жоўтай кашулі:

— Гэта тут запісваюць у гімназію?

— Так, вы ўжо 73-і! — жартуе адзін з тат.

На самай справе Аляксей 33-і ў спісе. Мужчына кажа, што не чакаў такога ажыятажу:

— Я разлічваў, што тут будзе чалавек 10, максімум 15, але не 30! — дзівіцца ён.

Вахту каля гімназіі нясуць некалькі бабуль і дзядуляў, але ў асноўным тут сабраліся таты і мамы. Дзяцей пакінулі спаць дома. Тыя, каму з раніцы трэба на працу, дзяжураць пазменна: з ночы да 6.30 вартуе тата, потым прыходзіць мама.




KP.BY

Першая дзясятка дзяцей у спісе сфармавалася каля трох гадзін ночы, другая — у пяць раніцы.

— Гэта дзіўна і смешна, што дзіцячы калектыў фармуецца па часе прыходу да гімназіі іх бацькоў, — бадзёра дзеліцца мужчына, які стаіць ля гімназіі з паўночы. — Але, з другога боку, прыйсці ноччу могуць толькі матываваныя бацькі, а ў іх звычайна адказныя дзеці, таму тут ёсць нейкая рацыя.

Да размовы падключаюцца і іншыя бацькі. Некаторыя лічаць, што займаць чаргу ноччу — цалкам нармальна.

— А чаму вы лічыце, што гэта незвычайная сітуацыя? Можна адну ноч і не паспаць, затое дзіця ўсё дзяцінства правядзе ў добрым асяродку, — упэўненая мама Наталля. Сама яна прыйшла бліжэй да сёмай раніцы.

— Тут навучаюцца добрыя дзеці, сваё кола, дзе ўсе адно аднаго ведаюць — я, напрыклад, ведаю шмат каго з прысутных, таму што мы сустракаліся на нейкіх імпрэзах, курсах, — расказваюць бацькі.

Адзін з бацькоў прыйшоў на дзяжурства да гімназіі ўчора ў дзевяць вечара і ўсё роўна спазніўся: у спісе ён быў ужо другім.

— Я падрыхтаваўся: узяў з сабой спальнік, але не карыстаўся ім. Складана было толькі першыя пяць-шэсць гадзін — прыходзілася сядзець на лаўцы, але спаць я не мог. Зараз прыйдзе жонка, а я пайду дадому — на працу мне толькі а 12-й гадзіне, — распавядае тата Алены-Дамінікі.

Гімназія знаходзіцца ў цэнтры горада на праспекце Незалежнасці. Бацькі прыехалі сюды з розных раёнаў: Курасоўшчына, Бараўляны, Серабранка, Чырвоны Бор. Перспектыва ўставаць раней, каб адвозіць дзіця на вучобу, нікога не палохае — усе згодныя ахвяраваць часам дзеля беларускамоўнага выкладання і профільных класаў: англійская і кітайская мовы тут паглыблена вывучаюць з першага класа.

Тата першакласніка Арцёма прыйшоў у палове на чацвёртую і быў дзясятым па ліку. Кажа, што яны з жонкай доўга не вагаліся — выбар паміж мясцовай гімназіяй і гэтай проста не стаяў.

— Мы сюды ідзём выключна дзеля кітайскай мовы, і толькі таму, што яе выкладае носьбіт мовы, — гэта для нас істотна. Вырашылі, што ў школе сын будзе вывучаць кітайскую мову, а англійскую — дома з рэпетытарам, якога жонка выбірала з васьмі прэтэндэнтаў. Вядома, яму будзе цяжка вывучаць кітайскую мову на беларускай мове, мне яго нават шкада — але ж без працы нічога не дасягнеш.

**Алеся Дашук, kp.by**

# Беларускамоўныя класы: спіс гарадоў і школаў

Пачынаецца набор першакласнікаў у школы краіны. Што рабіць тым, хто хацеў бы, каб дзіця вучылася па-беларуску, але не ведае, дзе яго вучаць на роднай мове? Прапануем спіс навучальных установаў, дзе навучаюць па-беларуску. А таксама нагадваем, што калі ў вашай школе беларускамоўнага класа няма, то трэба шукаць бацькоў-аднадумцаў і ісці ў адміністрацыю навучальнай установы. Калі набярэцца пэўная колькасць ахвотных, у школе павінны стварыць для іх асобны клас з беларускай мовай навучання.

Ну а пакуль што ў Мінску варыянтаў адносна шмат. Вучняў чакаюць як гімназіі, так і звычайныя сярэднія школы. Вось спіс навучальных установаў.

**Гімназія №4** (Кунцаўшчына, 18): прапануецца навучанне ў фізіка-матэматычных, хіміка-біялагічных і філалагічных класах (вывучэнне англійскай і польскай мовы з 1 класа, нямецкая ці французская ў якасці другой замежнай мовы). E-mail: gymn4@minsk.edu.by; тэлефон: (017) 258-49-71.

**Гімназія №23** (пр. Незалежнасці, 45): тут магчымае вывучэнне англійскай і кітайскай мовы з 1 класа. E-mail: gymn23@minsk.edu.by; тэлефон: (017) 284-47-62.

**Гімназія №9** (Сядых, 10): вывучэнне англійскай мовы з 1 класа, факультатыўнае вывучэнне польскай з 2 класа, музычныя заняткі (фартэпіяна, баян, акардэон, флейта, цымбалы). E-mail: gymn9@minsk.edu.by; тэлефон: (017) 283-04-21.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Гімназія №28** (Ракасоўскага, 93): паглыбленае вывучэнне англійскай і французскай моў, міжнародныя абмены, выкладанне прадметаў на французскай мове (краіназнаўства, літаратура Францыі) па праграмах, распрацаваных настаўнікамі школы. E-mail: gymn28@minsk.edu.by; тэлефон: (017) 368-32-02, 368-12-64.

**Гімназія №14** (Васняцова, 10): вывучэнне англійскай мовы з 1 класа, карэйскай мовы ў якасці факультатыва. На базе гімназіі дзейнічаюць фальклорны ансамбль, музеі, літаратурная студыя і студыя бальных танцаў. У гімназіі ёсць уласны спарткомплекс з басейнам. E-mail: gymn14@minsk.edu.by; тэлефон: (017) 295-21-37.

**Сярэдняя школа №190** (Нікіфарава, 19): выкладанне на беларускай і расейскай мовах. Бясплатная музычная адукацыя з 1 класа, спартыўныя секцыі і турыстычны клуб. E-mail: sch190@minsk.edu.by; тэлефон: (017) 260-24-90.

**Школа №60** (Лібкнехта, 82) — беларускамоўная школа з музычным ухілам. E-mail: sch60@minsk.edu.by; тэлефон: (017) 208-69-74, 209-94-49.

**Сярэдняя школа № 68** (зав. Ахоцкі, 17): класы з фальклорна-тэатральным кірункам. E-mail: sch68@minsk.edu.by; т.: (017) 243-76-82

У рэгіёнах сітуацыя горшая. Пакуль што набор у беларускамоўныя класы адкрыты нават не ў кожным абласным цэнтры. Але ж дзе-нідзе нават ёсць выбар.

**У Гомелі** адкрыты набор **у гімназію №36 імя Івана Мележа** (Братоў Лізюковых, 16). Тэл.: (0232) 23-13-17

**У Гродне** беларускамоўных навучэнцаў чакаюць у **сярэдняй школе №32** (Ліможа, 11). E-mail: sh32.schivilko@gmail.com; т.: (0152) 48-50-48; 43-64-03

**Магілёў** павялічыў колькасць беларускамоўных школаў у два разы. Была адна — а стала дзве. Які-ніякі, але ж прагрэс. Навучацца па-беларуску дзеці змогуць у **школе №1** (Першамайская, 24). E-mail: SSh1gmogileva@mail.ru; т.: (0222) 22-12-64. Таксама — **у школе №34** (Габраўская, 16). Т.: (0222) 48-23-79. Email: mogilev_school34@tut.by .

**У Барысаве** вядзіце малых у беларускамоўную **гімназію №2** (вул. Нармандыя-Нёман, 22). E-mail: bor_belgim2@rambler.ru; т.: (177) 72-27-57.

**УШ**

# Асцярожна, цыкута! Адпачынак на прыродзе можа стаць смяротным



Адна з найбольш небяспечных раслін — цыкута — сустракаецца па ўсёй Беларусі. Яе яшчэ называюць віхаг шалей, вех.

Расліна выглядае бяскрыўдна. Яна падобная да іншых раслін сямейства парасонавых — асабліва да сныці, валяр'яны, дзікай морквы.

Між тым чалавек можа загінуць толькі ад аднаго дотыку да расліны. Дастаткова пасля гэтага не памыць рукі перад ежай, каб памерці ў пакутах.

Дзеянне гэтай расліны пачынаецца праз некалькі хвілін. Яе атрута выклікае млосць і колікі ў ніжняй частцы жывата, з роту пачынае ісці пена, а скончваецца ўсё паралічам і смерцю. Лічыцца, што менавіта цыкуту прыняў старажытнагрэчаскі філосаф Сакрат.

Расце цыкута ў мокрых месцах, найчасцей — каля самай вады.

Калі раптам дзіця памылкова пацёрла ліст цыкуты, а пасля аблізала пальцы, трэба адразу ж на месцы любымі сродкамі выклікаць ваніты. Пасля чаго ляцець у бальніцу для прамывання страўніка.

Многія вучаць дзяцей не цягнуць у рот грыбы. Вучыце іх таксама не есці незнаёмых раслін.



## Змяя ўкусіла хлопчыка ў дзіцячым садку





30 мая ў Каўнаскую клініку з дзіцячага садка ў мястэчку Эжарэліс быў дастаўлены малы хлопчык, якога ў руку ўкусіла змяя.

Хлопчык пацярпеў у дзіцячым садку. Кіраўнік дзіцячай клінікі, прафесар Рымантас Кевалас ,сказаў, што дзіця выходзіць на сваё.

«Змяя ўкусіла дзіця за палец левай рукі. Гэта была гадзюка, у Літве іншых няма. Пасля ўкусу змяі рука апухла і пасінела. Напухласць патроху спадае, бо ўвялі спецыяльную сыроватку, супрацьяддзе. Усё лепшае, думаю, праз некалькі дзён зможам адпусціць хлопчыка дадому», — сказаў Кевалас.

Укус гадзюкі рэдка калі бывае смяротны. Звычайна ў выніку з'яўляецца запаленчая рэакцыя, разбурэнне крывяных цельцаў, хваравітае запаленне з пашкоджаннем лімфавузлоў, але пры лячэнні ў стацыянары праз некалькі дзён пацярпелы здаравее.

Прагназуюць, што ніякіх наступстваў у будучыні не будзе, бо дзіцяці своечасова аказалі дапамогу. «Вельмі добра, што выхавацелька адразу ж даставіла дзіця ў бальніцу», — сказаў Кевалас.

**delfi.lt**

## 17-гадовы хлопец ззаду ўхапіўся за вагон метро і праехаў да наступнай станцыі

Мінчанін зачапіўся за апошні вагон электрацягніка метро і праехаў так цэлую станцыю, паведамілі БелТА ў аддзеле інфармацыі і грамадскіх сувязяў ГУУС Мінгарвыканкама.

Інцыдэнт адбыўся на станцыі метро «Першамайская», дзе 17-гадовы хлопец заскочыў на падножку апошняга вагона электрацягніка і пракаціўся да наступнай станцыі метро «Пралетарская». У дачыненні да парушальніка быў складзены адміністрацыйны пратакол па артыкуле «Дробнае хуліганства».

Як растлумачыў намеснік начальніка УУС па ахове Мінскага метрапалітэна падпалкоўнік міліцыі Сяргей Лосіч, упершыню так званыя зачэперы з'явіліся ў мінскім метро ў канцы 2015 года.

«Падлетак праехаў на падножцы апошняга вагона электрацягніка. Відэа гэтага вар'яцкага ўчынку выклікала шырокі грамадскі рэзананс. На шчасце, тады малады чалавек не пацярпеў», — дадаў Сяргей Лосіч. Ён адзначыў, што рызыка апынуцца пад коламі электрацягніка зачэпераў зусім не палохае.

Адміністрацыйнае заканадаўства Беларусі кваліфікуе зачэпінг як дробнае хуліганства і ў якасці меры пакарання за яго прадугледжвае штраф у памеры ад 2 да 30 базавых велічынь, а ў некаторых выпадках і адміністрацыйны арышт.

## Рыбака забіла токам, яго дзіця, што было побач, цудам выжыла

На беразе ракі Бесядзь паблізу вёскі Трасціно Хоцімскага раёна 5 чэрвеня 39-гадовы магілёвец загінуў ад удару токам. Ён праігнараваў забараняльныя знакі і разам з сынам рыбачыў каля высакавольтных правадоў.

Мужчына, закідваючы вуду, зачапіў драты паветранай лініі электраперадачы і атрымаў смяротны разрад у 10 тыс. вольт. Яго 10-гадовы сын цудам застаўся цэлы — ён знаходзіўся далёка ад бацькі. Па словах экспертаў, пры такім удары токам у радыусе 5 метраў ад аб'екта ўдару памірае ўсё жывое.

Хлапчук пачуў, як бацька войкнуў, убачыў, што ён ляжыць нерухома, і пабег па дапамогу ў вёску да сваякоў. Аднак выратаваць мужчыну было немагчыма.

Для вызначэння дакладнай прычыны смерці прызначана судова-медыцынская экспертыза, распавяла афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Магілёўскай вобласці Аксана Салянюк.

У гэтыя ж выходныя адбылася яшчэ адна трагедыя: у Шчучыне ад удару маланкай загінуў мужчына, які вяртаўся дадому з крамы.

**news.tut.by**

## Дзіця загінула пасля прышчэпкі, цяжка сказаць чаму

Каля 16 гадзін 31 мая ў дзіцячай паліклініцы №1 Гродна пасля ўвядзення камбінаванай вакцыны супраць адзёру, паратыту і краснухі рэзка пагоршаў стан здароўя ў 6-гадовай дзяўчынкі, жыхаркі абласнога цэнтра.

Хоць дактары спрабавалі яе ўратаваць, яна памерла на вачах у сваёй маці.

Следчыя правялі агляд месца здарэння. Яны канфіскавалі ампулы з вакцынамі, выкарыстаныя ампулы і шпрыцы, а таксама медыцынскія прэпараты з кабінета прышчэпак. Акрамя таго, да матэрыялаў крымінальнай справы далучана для вывучэння ўся медыцынская дакументацыя, фінансава-бухгалтарскія дакументы на атрыманне вакцын.

СК паведаміў, што вакцына была бельгійскай вытворчасці і закупалася цэнтралізавана.

Па інфармацыі БелаПАН, з той жа ампулы была праведзена вакцынацыя яшчэ аднаго дзіцяці. З ім усё нармальна. Больш за тое, падобную вакцынацыю праводзяць два разы. Першы раз, у годзік, загінулая дзяўчынка перажыла прышчэпку абсалютна нармальна.

Такім чынам, следства мусіць разабрацца ва ўсім, каб выключыць падобныя выпадкі ў будучыні.

**УШ**

## Дзве ахвяры на «Гродна-Азоце»

У панядзелак удзень дзясяткі пажарных машын і хуткіх дапамог прыехалі на «Гродна Азот», а з тэрыторыі завода быў бачны дым. Па Гродне папаўзлі страшныя чуткі.

Хутка стала ясна, што пагрозы гораду няма, але непапраўныя страты адбыліся.

Загінулым 35 і 28 гадоў, яны плітачнікі-абліцоўшчыкі. Яшчэ двое пацярпелі і былі адпраўленыя на машынах хуткай дапамогі ў рэанімацыю.

«Як паведаміў адзін са сведкаў, ахвяры не мелі ніякага дачынення да вытворчасці. Хлопцы клалі плітку, а побач вяліся работы з агнём, адбыўся выбух. Адзін з загінулых разбіўся, выскачыўшы з акна, другога выявілі каля акна. Імаверная прычына — атручванне чадам», — піша гродзенскі рэсурс *s13.ru*.

Паводле папярэдняй інфармацыі, пры правядзенні агнявых работ іскра трапіла на гідраксіламінсульфат, у выніку чаго смяротнае атручэнне парамі атрымалі двое рабочых, яшчэ двое былі шпіталізаваны.

«Гродна-Азот» выпускае вадкі тэхнічны аміяк, азотныя ўгнаенні і біядызельнае паліва.

Фармальна гэта адкрытае акцыянернае таварыства, але амаль 100% акцый належаць дзяржаве. Яшчэ каля 1000 чалавек маюць дробныя пакеты акцый.

Пяць гадоў таму тут працавала амаль 11 тысяч чалавек. Цяпер засталося 7750 работнікаў.

**АГ**

## Дзмітрый Карзюк — новы кіраўнік ДАІ Беларусі



Папярэднік начальнік ДАІ Юрый Літвін сышоў у адстаўку па стане здароўя. Карзюку 45 гадоў, з 2008 года ён узначальваў ДАІ Мінска.

На сайце прэзідэнцкага спартыўнага клуба Карзюк узгадваецца як абаронца каманды прэзідэнта. На той жа пазіцыі гуляюць Віктар і Дзмітрый Лукашэнкі.

Падчас судоў за Плошчу-2010 Карзюк быў сведкам у абвінавачання па справе Дзмітрыя Бандарэнкі. Міліцэйскі начальнік тады расказваў, што Бандарэнка, Севярынец і Халіп прарвалі ланцуг супрацоўнікаў ДАІ».

**БЮ**

# Пяць пытанняў і адказаў пра Еўра-2016

10 чэрвеня матчам Францыя — Румынія распачнецца 15-ы чэмпіянат Еўропы па футболе. Увесь наступны месяц мільёны заўзятараў будуць сачыць за спаборніцтвамі, якія пройдуць на 10 французскіх стадыёнах. Нагадаем, Беларусь у чарговы раз засталася па-за межамі гэтага свята футбола.

Чэмпіянат Еўропы доўгі час лічыўся далікатэсам для футбольных гурманаў — ніякіх зборных Тога і КНДР, як на чэмпіянатах свету. Толькі 16 найлепшых каманд, і нікога лішняга.

Аднак сёлета ў Францыю прыехалі 24 каманды. У выніку стройная структура Еўра будзе парушана. У наступны раўнд праб'юцца два пераможцы кожнай групы, а таксама чатыры найлепшыя зборныя з тых, што зоймуць трэція месцы. Не заблыталіся? Заўзятары са стажам памятаюць, што такая ж сістэма спаборніцтва была на сусветных чэмпіянатах у 1980-я і ў пачатку 1990-х.

Спаборніцтва будзе праходзіць пры беспрэцэдэнтных мерах бяспекі. Спецслужбы нагадваюць, што існуе пагроза тэрактаў. «Краіна не павінна быць запалоханая», — супакойвае прэзідэнт Францыі Франсуа Аланд. У дадатак да таго французскія чыгуначнікі і пілоты анансуюць свае забастоўкі супраць новага працоўнага кодэксу, пагражаючы паралізаваць Еўра-2016.



Французы — гаспадары чэмпіянату і яго галоўныя фаварыты.

**Дзе глядзець матчы**

Белтэлерадыёкампанія будзе трансляваць усе матчы ў жывым эфіры. «Базавы» канал — «Беларусь-5». Калі некалькі матчаў ідуць паралельна, на дапамогу прыйдзе «Беларусь-2». А вячэрнія матчы, якія пачынаюцца ў 22:00, варта шукаць на «Беларусь-1».



**Надзея каманды**

Габар Кірай са зборнай Венгрыі — самы ўзроставы ўдзельнік чэмпіянату Еўропы. Брамніку ўжо 40 гадоў і 2 месяцы! Ён дагульвае кар'еру ў венгерскім клубе «Халадаш», у якім пачынаў ка'еру ў пачатку 1990-х.

Кірая можна лёгка пазнаць на полі: ён ніколі не гуляе ў шортах, толькі ў штанах, выцягнутых, з расцягнутымі каленямі. Найхутчэй, асноўным варатарам зборнай Венгрыі на Еўра будзе менавіта ён.

## 1. Хто пераможа?

Па меркаванні брытанскіх букмекераў з *William Hill*, найбольшыя шанцы перамагчы ў Францыі (3:1), Германіі (4:1), Іспаніі (5:1) і Англіі (8:1). Аднак, калі не здарыцца сенсацый, два асноўныя фаварыты — Францыя і Германія — сустрэнуцца між сабой у паўфінале.



Крышціяну Раналду спадзяецца выйграць хоць адзін турнір са зборнай Партугаліі.

У штомесячным рэйтынгу нацыянальных зборных наймацнейшая з еўрапейскіх каманд — Бельгія. Гэты спіс фарміруецца па выніках матчаў за апошнія некалькі гадоў.

## 2. Хто заб'е больш за ўсіх?

На гэтае пытанне ў букмекераў таксама ёсць адказ. Зразумела, што найлепшыя шанцы ў нападаючых моцных зборных, бо яны па дарозе да фіналу правядуць найбольшую колькасць матчаў.


Букмекеры мяркуюць, што немец Томас Мюлер заб'е больш за ўсіх.

Стаўкі перадусім прымаюць на немца Томаса Мюлера (7:1), партугальца Крышціяну Раналду (8:1) і француза Антуана Грызмана (9:1). Услед за імі цэлая група нападаючых: іспанец Альвара Марата, француз Алівье Жыру, паляк Роберт Левандоўскі і англічанін Гары Кейн (па 16:1).

## 3. Якія каманды дэбютуюць у спаборніцтвах?

Павелічэнне колькасці ўдзельнікаў дазволіць адразу пяці зборным дэбютаваць на чэмпіянатах Еўропы.

Ісландыя, Албанія і Паўночная Ірландыя моцныя перадусім сваім камандным духам. Зборную Уэльса будзе цягнуць наперад зорка мадрыдскага «Рэала» Гарэт Бэйла, а Славакія верыць у талент Марэка Гамшыка, лідара італьянскага «Напалі».

## 4. Якія рэкорды могуць быць усталяваныя?

Партугалец Крышціяну Раналду можа ўсталяваць адразу некалькі рэкордаў чэмпіянатаў Еўропы. Ён пакуль што дзеліць першынство па колькасці праведзеных матчаў у фінальных турнірах — 16 гульняў. Большасць ягоных найбліжэйшых канкурэнтаў ужо скончылі кар'еру.

Ён жа прэтэндуе і на лідарства па забітых мячах. Шэсць галоў у папярэдніх чэмпіянатах у Крышціяну Раналду ўжо ёсць, столькі ж у шведа Златана Ібрагімавіча. Пяць галоў у англічаніна Уэйна Руні. Нагадзе ў гэтай намінацыі Мішэль Плаціні, адхілены ад пасады прэзідэнт УЕФА (8 галоў).

Ну а Іспанія і Германія будуць змагацца за права стаць чатырохразовымі чэмпіёнамі Еўропы.

## 5. Беларусь хоць неяк прадстаўлена на Еўра-2016?

Двума суддзямі, дый тыя толькі ў рэзервовым спісе. Беларусы Аляксей Кульбакоў і Віталь Малюцін могуць быць прызначаныя на нейкі з матчаў, калі атрымае траўму нехта са 112 арбітраў.

**Браніслаў Юрэвіч**

# На каго варта паглядзець

### Англія

Зборная Англіі — самая маладая на чэмпіянаце. Сярэдні ўзрост гульцоў — 25,4 года.

Англія на чэмпіянатах Еўропы — гэта гатовы сюжэт для трагікамедыі. У 1996, 2004 і 2012 гадах зборная вылятала з турніра ў серыі пасляматчавых пенальці.

Але цяперашнія гульцы бачылі тыя крыўдныя паразы толькі па тэлебачанні. Сярод сусветна вядомых зорак у складзе застаўся толькі нападаючы Уэйн Руні. Яму 30 гадоў, хоць, здаецца, Руні гуляе цэлую вечнасць. Праўда, цяпер ён страціў сваю ранейшую хуткасць і наўрад ці будзе гуляць на вастрыі атакі.

Прыглядзецеся да маладых зорак у складзе Англіі: 22-гадовыя Гары Кейн і Эрык Даер, 21-гадовы Рахім Стэрлінг, 18-гадовы Маркус Рэшфард...

Трэнер зборнай Рой Ходжсан тактычна правяліў папярэдні чэмпіянат свету, але цяпер хоча пачаць усё з чыстага аркуша: «У гэтага складу няма багажу непрыемных успамінаў. На іх не ціснуць грахі мінулага. Менавіта такі наш пасыл футбалістам».

### Бельгія

У якіх клубах гуляе асноўны склад зборнай? «Чэлсі», «Барселона», «Рома», «Манчэстэр Юнайтэд», «Ліверпуль», «Манчэстэр Сіці», «Атлетыка»... Бельгійцаў сустрэнеш бадай у кожнай топ-камандзе Еўропы. На папярэднім чэмпіянаце свету зборная не апраўдала спадзяванняў заўзятараў, гуляючы ў занадта асцярожны футбол. Цяпер бельгійцы набраліся досведу, у іх самы футбольны ўзрост — 25—27 гадоў. Калі перамагаць, як не цяпер?

У каманды ёсць праблемы з абаронай. Але, калі пойдзе гульня ў атакуючых паўабаронцаў Эдэна Азара і Кевіна дэ Бруйнэ ды ў належнай форме будзе таранны нападаючы Рамелу Лукаку, супернікам давядзецца цяжка.

### Ісландыя

Насельніцтва краіны складае 320 тысяч чалавек — гэта як беларускі абласны цэнтр. Здавалася б, у трэнера зборнай выбар гульцоў мінімальны.

Аднак Ісландыя ўпершыню ў сваёй гісторыі патрапіла на чэмпіянат, падчас адборачных матчаў двойчы абыграўшы зборную Нідэрландаў.

Дзве мясцовыя зоркі — гульцы з падобнымі прозвішчамі. Нападаючы Колбэйн Сігтарсан не здолеў адаптавацца да чэмпіянату Францыі і забіў за сезон толькі 3 галы. Паўабаронца Гільфі Сігурдсан, наадварот, правёў найлепшы год у сваёй кар'еры і забіў за «Суонсі» (клуб з Уэльса, выступае ў чэмпіянаце Англіі) 11 галоў.

Нарэшце, у складзе дагэтуль легенда — 37-гадовая мясцовая зорка Эйдур Гудзьёнсен, які некалі гуляў за «Барселону» і «Чэлсі».

Па праўдзе, Ісландыя зараз зусім не ў форме: з 10 апошніх гульняў удалося перамагчы толькі ў дзвюх. Але ў любым разе нават проста ўдзел такой зборнай у Еўра — ужо прыклад для іншых.



18-гадовы Маркус Рэшфард з «Манчэстэр Юнайтэд» з'явіўся ў дарослым футболе 3 месяцы таму. Ён паспеў згуляць за зборную Англіі толькі адзін матч, але ў ім жа і забіў гол.

# Каляндар чэмпіянату Еўропы

| Група A | 1 | 2 | 3 | 4 | В | Н | П | Г | А | М |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Францыя | × | | | | | | | | | |
| Швейцарыя | | × | | | | | | | | |
| Румынія | | | × | | | | | | | |
| Албанія | | | | × | | | | | | |

| | |
|---|---|
| 10 чэрвеня, 22:00 | Францыя — Румынія |
| 11 чэрвеня, 16:00 | Албанія — Швейцарыя |
| 15 чэрвеня, 19:00 | Румынія — Швейцарыя |
| 15 чэрвеня, 22:00 | Францыя — Албанія |
| 19 чэрвеня, 22:00 | Швейцарыя — Францыя |
| 19 чэрвеня, 22:00 | Румынія — Албанія |

| Група D | 1 | 2 | 3 | 4 | В | Н | П | Г | А | М |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Іспанія | × | | | | | | | | | |
| Харватыя | | × | | | | | | | | |
| Чэхія | | | × | | | | | | | |
| Турцыя | | | | × | | | | | | |

| | |
|---|---|
| 12 чэрвеня, 16:00 | Турцыя — Харватыя |
| 13 чэрвеня, 16:00 | Іспанія — Чэхія |
| 17 чэрвеня, 19:00 | Чэхія — Харватыя |
| 17 чэрвеня, 22:00 | Іспанія — Турцыя |
| 21 чэрвеня, 22:00 | Харватыя — Іспанія |
| 21 чэрвеня, 22:00 | Чэхія — Турцыя |

| Група B | 1 | 2 | 3 | 4 | В | Н | П | Г | А | М |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Англія | × | | | | | | | | | |
| Расія | | × | | | | | | | | |
| Славакія | | | × | | | | | | | |
| Уэльс | | | | × | | | | | | |

| | |
|---|---|
| 11 чэрвеня, 19.00 | Уэльс — Славакія |
| 11 чэрвеня, 22:00 | Англія — Расія |
| 15 чэрвеня, 16:00 | Расія — Славакія |
| 16 чэрвеня, 16:00 | Англія — Уэльс |
| 20 чэрвеня, 22:00 | Славакія — Англія |
| 20 чэрвеня, 22:00 | Расія — Уэльс |

| Група E | 1 | 2 | 3 | 4 | В | Н | П | Г | А | М |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Бельгія | × | | | | | | | | | |
| Італія | | × | | | | | | | | |
| Швецыя | | | × | | | | | | | |
| Ірландыя | | | | × | | | | | | |

| | |
|---|---|
| 13 чэрвеня, 19.00 | Ірландыя — Швецыя |
| 13 чэрвеня, 22:00 | Бельгія — Італія |
| 17 чэрвеня, 16:00 | Італія — Швецыя |
| 18 чэрвеня, 16:00 | Бельгія — Ірландыя |
| 22 чэрвеня, 22:00 | Швецыя — Бельгія |
| 22 чэрвеня, 22:00 | Італія — Ірландыя |

| Група C | 1 | 2 | 3 | 4 | В | Н | П | Г | А | М |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Германія | × | | | | | | | | | |
| Украіна | | × | | | | | | | | |
| Польшча | | | × | | | | | | | |
| Паўночная Ірландыя | | | | × | | | | | | |

| | |
|---|---|
| 12 чэрвеня, 19.00 | Польшча — П. Ірландыя |
| 12 чэрвеня, 22:00 | Германія — Украіна |
| 16 чэрвеня, 19:00 | Украіна — П. Ірландыя |
| 16 чэрвеня, 22:00 | Германія — Польшча |
| 21 чэрвеня, 19:00 | П. Ірландыя — Германія |
| 21 чэрвеня, 19:00 | Украіна — Польшча |

| Група F | 1 | 2 | 3 | 4 | В | Н | П | Г | А | М |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Партугалія | × | | | | | | | | | |
| Аўстрыя | | × | | | | | | | | |
| Венгрыя | | | × | | | | | | | |
| Ісландыя | | | | × | | | | | | |

| | |
|---|---|
| 14 чэрвеня, 19.00 | Аўстрыя — Венгрыя |
| 14 чэрвеня, 22:00 | Партугалія — Ісландыя |
| 18 чэрвеня, 19:00 | Ісландыя — Венгрыя |
| 18 чэрвеня, 22:00 | Партугалія — Аўстрыя |
| 22 чэрвеня, 19:00 | Ісландыя — Аўстрыя |
| 22 чэрвеня, 19:00 | Венгрыя — Партугалія |

**Скарачэнні: В** — выйгрышы, **Н** — нічыі, **П** — пройгрышы, **Г** — галы, **А** — ачкі, **М** — месца.

У залежнасці ад таго, трэція каманды з якіх груп змогуць прайсці ў 1/8 фіналу, з дапамогай спецыяльнай табліцы будуць вызначаны іх супернікі




## Папярэднія чэмпіёны Еўропы

1960 — СССР
1964 — Іспанія
1968 — Італія
1972 — Германія
1976 — Чэхаславакія
1980 — Германія
1984 — Францыя
1988 — Нідэрланды
1992 — Данія
1996 — Германія
2000 — Францыя
2004 — Грэцыя
2008 — Іспанія
2012 — Іспанія




**Іспанія перамагла ў двух запар чэмпіянатах.**

## Наступны чэмпіянат раскідаюць па 13 гарадах

У чэмпіянаце Еўропы 2020 года, як і цяпер, змогуць паўдзельнічаць 24 каманды. Але турнір адбудзецца адразу ў 12 гарадах. Каманды-ўдзельнікі будуць перадятаць паміж Амстэрдамам, Баку, Більбаа, Брусэлем, Будапештам, Бухарэстам, Глазга, Дублінам, Капенгагенам, Лонданам, Мюнхенам, Рымам і Санкт-Пецярбургам.

А вось гаспадар Еўра-2024 яшчэ не вызначаны. Свае заяўкі рыхтуюць Германія, Турцыя, а таксама ўся Скандынавія разам.

# Як самы вядомы астраном Беларусі стаў экстрэмістам

Віктар Малышчыц — вядомы астраном. Вядомы не толькі як кандыдат навук і выкладчык галоўнага ўніверсітэта краіны — БДУ. Ён таксама спалучае навуку з яе папулярызацыяй. Яго выставу «Беларусь у абдымках зорак» бачылі дзясяткі тысяч людзей. Але не ўсе.

Вось якая гісторыя здарылася з астраномам Малышчыцам на крайнім поўдні краіны.



«Усім вядома, што чалавек з фотаапаратам у нашай краіне — гэта вельмі небяспечны злачынца. Можа, напрыклад, сфатаграфаваць павучка на фоне знака радыяцыі. Не смейцеся, менавіта гэты здымак быў прызнаны экстрэмісцкім у 2012 годзе! Яшчэ гэты чалавек можа сфатаграфаваць ЗАГС у Іўі (рэальная гісторыя з рэальнымі праблемамі!) ці «Вароты горада» ў Мінску (а тут ужо праблемы меў асабіста я).

Еду ў Прыпяцкі нацыянальны парк зрабіць некалькі здымкаў Прыпяці на досвітку. Месцы, куды я еду, агульнадаступныя, не запаведныя. Адно толькі — на ўездзе стаіць КПП, дзе трэба адзначыцца. Штодня там праязджаюць дзясяткі рыбакоў і мясцовых жыхароў — ніякіх праблем няма.

Пад'язджаю туды а 4-й раніцы. «Куды едзеце?» — стандартнае пытанне. «У Перакоп, Прыпяць ад вёскі паздымаць». Усё. Паздымаць. Экстрэміст, значыць. Шлагбаум для мяне ўжо не адчыняецца, а мне ветліва прапануюць атрымаць пропуск у зону (не запаведную!) у адміністрацыі ў Ляскавічах, да якой 55 кіламетраў.

Еду ў Ляскавічы. Там мяне накіроўваюць у аддзел турызму, дзе шчыра здзіўляюцца маёй праблеме, бо пропуск там непатрэбны. На просьбу выпісаць хоць нейкую паперку пытаюцца, навошта я прыехаў. Пачуўшы пра фота, палохаюцца і клічуць нейкага начальніка. Той, даведаўшыся пра фота, палохаецца і шле яшчэ да аднаго. Гэтаму таксама страшна даць дазвол на фатаграфаванне таго, што і так можна здымаць па законе, і ён робіць ход канём: дазвол толькі з блаславення генеральнага дырэктара! Ага, кожны рыбак таксама да гендырэктара ходзіць?

Дырэктар таксама здзіўляецца маім праблемам і загадвае напісаць мне дазвол на здымкі. На КПП новая змена, якая нават не спыняе мяне, а проста моўчкі падымае шлагбаум. Я, праўда, не моцна пакрыўдзіўся, бо цяпер з той паперкай мог лезці куды заўгодна ў парку, чым адразу і скарыстаўся.

На наступны дзень еду на раку Убарць, каб паздымаць яе пойму. Там ужо памежная зона, але да мяжы больш за дзесяць кіламетраў. Бяру з сабой пашпарт, квітанцыю аб аплаце пошліны — наперад! Але праблемы пачынаюцца за першым жа паваротам.

Патруль памежнікаў спыняе праверыць дакументы. З імі ўсё ў парадку, дзяжурнае пытанне: «З якой мэтай прыехалі?» — «Паздымаць Убарць». Ага. Паздымаць. Падазрона пачынае разглядаць змесціва машыны, і тут позірк памежніка натыкаецца на коптар. Коптар з фотаапаратам — гэта ўжо не экстрэмізм, гэта, блін, ужо тэрарызмам пахне. І хоць я нічога дрэннага зрабіць не паспеў, сяржант вырашае пракансультавацца з базай, перш чым мяне адпусціць.

На базе, пачуўшы словы «фота» і «коптар», таксама палохаюцца і вырашаюць пракансультавацца ў калег. А тыя, баючыся адказнасці, задаюць тое ж пытанне ў Мазыр. А калі з нейкай глушы адпраўляюць запыт у Мазыр, значыць, справа сур'ёзная: аб'яўляецца сігнал «У ружжо!», да мяне выязджае яшчэ адзін нарад з панятымі, у частку накіроўваюцца міліцыя і КДБ (пажарнікаў толькі забылі паклікаць). А Мазыр, баючыся ўзяць адказнасць, шле запыт у Мінск. Цікава, галоўнакамандуючаму перадалі ці не?

А ў Мінску ўжо разумеюць: па дробязі да іх не звернуцца. Таму цэлую гадзіну шукаюць, да чаго б прычапіцца. Знайшлі. Згодна з пастановай, з мінулага лета забараняецца ўвоз у памежную зону лятальных апаратаў, цяжэйшых за 1 кг. А ў мяне толькі камера больш важыць. Таму па загадзе зверху распачынаецца адміністратыўная справа, складаецца куча пратаколаў, тэхніка канфіскуецца, а мяне чакаюць пад Мазыром у вёсцы Прудок у аўторак на разбіральніцтва. Ну, хоць убачу гэты Прудок не толькі вачыма шаноўнага Андруся Горвата.

Дарэчы, быў здзіўлены ветлівасцю мясцовых памежнікаў. І гарбатай з пячэннем паілі, і вячэраць прапаноўвалі, і экскурсію па частцы зрабілі, і на тэму «Беларуская мова — аснова дзяржаўнай бяспекі» самі першыя пачалі размаўляць. І яшчэ доўга выбачаліся за ўсю гэтую гісторыю. Кажуць, ведалі б, які вэрхал тут пачнецца, адпусцілі б мяне ціхенька і ўсё.

**Віктар Малышчыц**

## Нашто нам тыя комплексы на тысячы галоў?

Дарагая рэдакцыя!

Я жыхар вёскі Палачаны, Бекіш Міхаіл Восіпавіч. У гэтай вёсцы я нарадзіўся, усё жыццё маё прайшло тут. Жыву па народнай прымаўцы: дзе нарадзіўся, там і згадзіўся.

Быў час торфараспрацовак. З пяцідзясятых вецер ганяў тарфяны пыл, набіваў яго за аконныя рамы, ён асядаў на вывешаную для прасушкі вопратку. Было цяжка, але людзі разумелі, што трэба паліва. Скончыўся торф, стала чыста. Аднак нядоўга радаваліся вяскоўцы. Пабудавалі асфальтавы завод. Гэта горш за торф. Працаваў я на чыгуначнай станцыі Палачаны, у зацішную ноч дыхаць было немагчыма, акісляльнікі бітуму — зусім не дыхальныя сумесі для людзей. Пры паўночным ветры суседства немагчымае. «Смалярня», як завод клічуць у народзе, функцыянуе і цяпер. Яшчэ адзін сюрпрыз, відаць, чакае нас у хуткай будучыні. Дайшла да нас «свіная цывілізацыя»: побач з вёскай задумана будаўніцтва свінакомплексу на сто тысяч галоў. І, напэўна, незразумела змагарам за свінакомплекс, што ўвесь басейн ракі Бярэзіна будзе запаганены.

Комплекс збіраюцца будаваць на ўзвышшы. Унізе — Палачаны, куды ў лівневыя дажджы ідзе вада, заліваючы цэнтр, а далей — Бярэзіна. А Яхімоўшчына, унікальнае купалаўскае месца, наогул патоне ў гноі і яго водары, бо знаходзіцца ў яме. Як пахне свінакомплекс, мы ведаем добра. Побач, у вёсцы Хожава, ужо пабудаваны свінакомплекс па нямецкай тэхналогіі, праўда, меншы за наш. А возера, куды мы раней ездзілі на рыбалку, стала далёка не прывабным з-за спецыфічных водараў. Свінакомплекс на 100 тысяч галоў ужо будуецца каля вёскі Соўлава, за 12,5 кіламетра ад нас напрасткі, а ад меркаванага месца будоўлі — ад 800 метраў да 2,5 кіламетра да шасці вёсак. Атрымліваецца, што колькасць свіней на маленькі лапік зямлі перавысіць колькасць жыхароў нашага райцэнтра Маладзечна ў два разы.

Мала таго, што пад будаўніцтва адводзяцца ўрадлівыя землі, дык мы яшчэ апынемся пад пагрозай забароны трымаць свіней.

Барацьба супраць комплексу ідзе з мінулага года. 6 мая 2016 года Маладзечанскі выканкам правёў у нас вельмі цікавы, добра зрэжысіраваны спектакль-сход. Тры намеснікі старшыні Кананові ч Л.Н.,. Актанаровіч Г.Р. і Каткавец М.П. прывезлі з сабой чыноўнікаў і чамусьці работнікаў СВК «Гарадзілава», які не мае ніякага дачынення да нашага сельсавета. Сход пачалі раней за прызначаны час. «Госці» занялі практычна ўсе месцы ў зале, а мясцовыя жыхары засталіся ў калідоры і на вуліцы, дзе нічога не бачылі і не чулі. У зале мікрафона не было, наглядныя дапаможнікі былі вывешаны вельмі нізка.

Галасаванне не адбылося, але галачку, што сход прайшоў, мабыць, паставілі, бо на месцы будоўлі, па словах тых, хто жыве ў непасрэднай блізкасці, ужо ўбівалі нейкія калкі. Ініцыятыўная група з мясцовых жыхароў сабрала подпісы. 549 чалавек выказаліся супраць. Якая будзе ў нас вада? Якое паветра будзе ў вёсцы?

Шмат хто кажа, што ні мы, ні нашы подпісы нікому не патрэбныя, бо ўсё даўно вырашана ў вярхах. Дык дзе ж клопат пра людзей?

**Міхаіл Бекіш, Палачаны (Маладзечанскі раён)**

## Патрэбны закон аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы

Мяне, як і многіх беларусаў, вельмі непакоіць гаротны стан роднай мовы. Хоць афіцыйна яна з'яўляецца дзяржаўнай, але пасля рэферэндуму 1995 года нашы чыноўнікі паставілі беларускую мову фактычна на мяжу знікнення, поўнага выціснення яе з усіх сфер грамадскага жыцця. Вышэйшым кіраўніцтвам краіны, дэпутатамі парламента парушаны прынцып канстытуцыйнай роўнасці двухмоўя. Я хачу чытаць усе законы Рэспублікі Беларусь, дэкрэты і ўказы кіраўніка дзяржавы, пастановы ўрада, рашэнні мясцовых улад па-беларуску. Але ж такой магчымасці не маю. Амаль усе заканадаўчыя і нарматыўныя акты прымаюцца і публікуюцца на адной дзяржаўнай мове — рускай. Чаму ўлада абмежавала маё права як грамадзяніна Рэспублікі Беларусь?

Прэзідэнт краіны аднойчы сказаў, што мова не павінна быць палітычнай катэгорыяй. А на самай справе беларуская ўлады зрабілі ўсё для таго, каб мова стала «яблыкам разладу», сродкам палітычнай барацьбы. Агрэсіўная русіфікацыя — хіба ж гэта нармальная палітыка?

Прапаную абмеркаваць прычыны перакосаў у дзяржаўнай культурна-моўнай палітыцы і патрабаваць ад улад усіх узроўняў прыняцця дзейсных захадаў, каб выправіць гэтыя перакосы. Сёння, як ніколі раней, беларускай мове патрэбна грунтоўная дзяржаўная падтрымка. Беларускім уладам, на маю думку, трэба зрабіць найперш тры рашучыя крокі:

— забяспечыць канстытуцыйную роўнасць дзяржаўнага двухмоўя;

— забяспечыць навучанне ў палове (50%) сярэдніх і вышэйшых навучальных установаў па-беларуску;

— прыняць Закон Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы».

**Міхась Спірыдовіч, сябра Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, Івянец (Валожынскі раён)**

## І баброў трэба адстрэльваць?

У Смалявіцкім раёне, Азярыцка-Слабадскім сельсавеце, каля вёсак Дамашаны, Дзінараўка, Падыгрушша і інш., за апошні час была нанесеная вялікая шкода прыродзе. Мясцовая ПМК пры ачыстцы меліярацыйных каналаў разбурыла шматлікія паселішчы баброў па рацэ Пліса. Таксама выкарчавалі і кустоўе ўздоўж ракі Плісаў, дзе жывуць зайцы.

На думку начальніка Смалявіцкай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, да гэтага трэба ставіцца па-філасофску і не звяртаць увагі, усё зроблена па праекце, і баброў трэба адстрэльваць, а заяц знойдзе сабе месца. Гэта адказ галоўнага чалавека, які сочыць за аховай прыроды ў раёне…

Маю пытанні і па выкарыстанні гербіцыду «Аграшчыт» супраць баршчавіка. Мне падаецца, што ён трапляе ў рэкі і азёры.

Зварот у Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя быў бессэнсоўны, склалася ўражанне, што гэтая ўстанова для паператворчасці, а не для аховы прыроды.

**Кудзін Дзмітрый Георгіевіч, Слабада (Смалявіцкі раён)**

### Усміхніцеся

Вельмі добра, што вы публікуеце акрамя сур'ёзных матэрыялаў падборку анекдотаў і жартаў.

Успамінаю, як у сярэдзіне другой паловы мінулага стагоддзя хадзілі анекдоты пра армянскае радыё, якія «білі не ў брыво, а ў вока». На днях давялося пачуць гэтае «рэтра». Прапаную вам пачутае:

На армянскае радыё прыходзіць ліст, у якім чалавек расказвае: «Учора пачуў анекдот ад армянскага радыё — увесь дзень смяяўся. Скажыце, калі ласка, а хто ж складае анекдоты?» Адказваем: «Не ведаем, але аналагічнае пытанне задаў нам жыхар Масквы Юрый Андропаў».

**Леанід Сай, Мінск**

### Шчыра дзякуем нашым чытачам за ахвяраванні

Шчыра дзякуем неабыякавым чытачам за ахвяраванні на выхад NN.BY/«Нашай Нівы» праз сістэму АРІП:

Kur-kou A.B, СВГЦ, Ж-к С.В., bek-vich, Aliaksej, Ананімна, Макcвіч.

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# Яна сказала: «У цябе рукі не адтуль растуць». Ён развярнуўся і ўдарыў малатком па галаве

**Пачаўся суд па гучнай справе аб забойстве лёгкаатлеткі Юліі Балыкінай. 29-гадовага Дзмітрыя Вішталюка абвінавачваюць у забойстве з асаблівай жорсткасцю. Яму можа пагражаць да 25 гадоў ці нават расстрэл.**


Дзмітры Вішталюк.

На судзе абвінавачаны трымаўся прыгнечана. Увогуле, працэс пачаўся з таго, што адвакат Вішталюка спазняўся, аднак на пытанне, ці згодзен абвінавачаны пачаць пасяджэнне без абаронцы, той толькі флегматычна кіўнуў, пагаджаючыся. Праўда, адваката ўсё ж пачакалі.

Па версіі следства, пасля забойства Вішталюк вярнуўся ў кватэру і забраў адтуль залатыя ўпрыгожванні, камплект пасцелі, жаночыя боты, паліто, сумачку, а таксама грошы і мабільнік. Забраў ён нават касметычку загінулай. Агулам ён вынес рэчаў на суму не менш за 34 мільёны рублёў.

Сваю віну Вішталюк прызнаў цалкам: і ў забойстве, і ў крадзяжы. Але па яго словах, што тычыцца крадзяжу, то рэчы ён забраў не дзеля выгады. Пасля таго, як суддзя патлумачыў, што крадзеж — гэта непасрэдна завалоданне рэчамі з мэтай выгады, Вішталюк трохі падумаў і пагадзіўся, прызнаўшы віну і ў гэтым.

Затым пачаўся допыт Вішталюка.

Ён распавёў, што вярнуўся з Масквы ў Беларусь у 2012 годзе. Спачатку здымаў пакой у знаёмага, затым — кватэру ў Серабранцы. Зарабляў «шабашкай» на будоўлях. Пасля займаўся нацяжнымі столямі разам са знаёмым. Кажа, што выходзіла каля 500 тысяч рублёў штодня.

З Балыкінай ён пазнаёміўся на сайце знаёмстваў. «Спачатку паміж намі былі сяброўскія адносіны, затым пачалі жыць разам», — сказаў Вішталюк.

28 кастрычніка 2015 года, калі і здарылася бяда, яны ўжо не жылі разам. Але, кажа Дзмітрый, ён дапамагаў з рамонтам.

Па словах Вішталюка, у той вечар ён прыехаў каля 6-й вечара дапамагчы з нацяжной столяй у ваннай. Ён пачаў займацца рамонтам, але трохі пашкодзіў палатно столі. Балыкіна вельмі раззлавалася, але ён патлумачыў, што нічога страшнага не здарылося, і яна супакоілася. Але потым ізноў пачала адчытваць Дзмітрыя, казаць, што ён нічога не можа нармальна зрабіць. У гэты момант Дзмітрый стаяў на крэсле спінай да яе.

«Я не ведаю, што далей здарылася. Проста павярнуўся і ўдарыў малатком. Падрабязней расказаць не магу. І не помню, і гэта тычыцца вельмі прыватнага», — сказаў Дзмітрый.

Колькі ўдараў ён нанёс, Вішталюк не памятае. Кажа — 5—6. Затым Балыкіна ўпала на бок. Ці біў ён яе далей, не памятае.

Затым Вішталюк апрытомнеў і пабачыў, што нарабіў. Балыкіна ляжала у ванне і хрыпела – яна ўпала туды пасля ўдараў. Вішталюк зняў вопратку, у якой працаваў, апрануў штодзённую і збег з кватэры. Кажа, не выклікаў хуткай, бо спужаўся. Па дарозе ён схапіў ключы ад машыны Юліі — «каб з'ехаць, збегчы». Пры гэтым у Вішталюка правоў кіроўцы не было.

Па яго словах, збег ён з кватэры каля паловы на дзясятую вечара.

Пасля трагедыі Дзмітрый сеў у «Кіа Рыа» Балыкінай, паехаў пакласці грошы на тэлефон. Сазваніўся са знаёмым — кажа, хацеў выпіць з ім. Але штосьці там не выйшла, і Вішталюк паехаў на чыгуначны вакзал. Сядзеў у зале чакання да 2-й ночы, бо не ведаў, што рабіць далей.

Але каля 2-й гадзіны ночы ён вярнуўся ў кватэру Балыкінай. Юлія ўжо не падавала прыкмет жыцця. Дзмітрый узяў плёнку, загарнуў у яе цела, перанёс у калідор. Пачаў мыць ванную (крыві было шмат, па яго словах — «як ручай»).

Затым ён сабраў упрыгожванні і рэчы жанчыны. Кажа, хацеў абставіць усё так, нібыта Юлія з'ехала. Затым выкінуў у кантэйнер са смеццем вядро і анучу, з дапамогай якіх мыў кватэру. Малаток вымыў і паклаў на балконе.

Затым Дзмітрый падагнаў машыну пад пад'езд. Паклаў у яе свае рэчы, на якіх была кроў (пасля выкінуў далёка ад дома). У багажнік ён загрузіў труп.

«Паехаў проста... Спачатку без мэты. Проста на МКАД. Не ведаў, што рабіць», — кажа Вішталюк.

Па дарозе выкінуў з акна машыны відэарэгістратар — у ім быў убудаваны GPRS.

Такім чынам, Дзмітрый паехаў па трасе. Пачаў шукаць чыгуначную станцыю — выдала, што найбліжэйшая Смалявічы.

Ён пакінуў недалёка ад станцыі машыну, сеў на найбліжэйшы цягнік і вярнуўся ў Мінск.

На наступны дзень Дзмітрый выйшаў на працу. Пасля яе пайшоў на вакзал, думаў ехаць у Смалявічы... але заснуў. Прачнуўся каля 3 ночы. Наступная электрычка была а 6-й раніцы. Дзмітрый набыў на яе квіток.

У Смалявічах машына стаяла на тым жа месцы, нумары з яе Вішталюк зняў яшчэ раней.

Ён сеў у машыну, пачаў ездзіць па раёне. Кажа, што шукаў, дзе яе кінуць. Недалёка ад вёскі Старына вырашыў: тут. Выцягнуў труп, аднёс у лес, абклаў галлём і мохам. Не закопваў.

Затым ен паехаў на запраўку выпіць кавы, бо надта хацелася спаць. Пасля паехаў у Жодзіна — вырашыў кінуць машыну там.

У Мінск вярнуўся электрычкай. Па дарозе заўважыў, што забыўся выкінуць золата і ўпрыгожанні Балыкінай. Спачатку хацеў падкінуць іх назад у кватэру, але было страшна туды вяртацца.

Ён прыехаў на кватэру. Але, калі Дзмітры быў ужо ў пад'ездзе, яму патэлефанаваў брат Юлі і сказаў, што ў яе кватэры будуць ламаць дзверы. Знікненне жанчыны ўжо заўважылі, яе шукалі.

Тады Дзмітрый паклаў упрыгожанні ў пакет з-пад жуек, які быў у яго торбе, і пакінуў пакет паміж паверхамі.

Затым Дзмітрый разам з братам Балыкінай, які пад'ехаў, пачалі чакаць міліцыю.

Прыехала міліцыя. Дзмітрый паехаў у РАУС, дзе ў яго спыталіся, калі ён апошні раз бачыў Юлію. Сам прызнае, што яго пачало трэсці. Гэта заўважылі міліцыянты — і неўзабаве Дзмітрый прызнаўся.

Да таго ж адзін з пярсцёнкаў валяўся з пакета і застаўся ў кішэні Дзмітрыя. Яго знайшлі падчас перагрусу ў РУУС.

Тое, што падчас забойства ён быў пад уздзеяннем наркотыкаў, Дзмітрый адмаўляе. Але прызнае, што час ад часу мог дазволіць сабе марыхуану. Юлія ж, па яго словах, не ўжывала.

Дзмітрый прызнаў, што пасля забойства, увечары, узяў у знаёмага трохі гашышу. Потым, калі быў на вакзале, ужыў яго ў машыне. Частку выкурыў у Смалявічах, калі пакідаў там машыну. А рэшту наркотыку проста згубіў.

Тое, што ён забраў яшчэ нейкія рэчы — боты, камплект пасцелі, — Дзмітрый адмаўляе.

Віну сваю ён прызнае. Падпісаў яўку з павіннай.

«Я хачу папрасіць прабачэння ў сваякоў... Хоць ведаю, што за такое цяжка выбачыць», — сказаў Дзмітрый.

«Бог выбачыць», — адказала маці Балыкінай.

**Уладзіслаў Швядовіч**

31-гадовая Юлія Балыкіна знікла ў кастрычніку 2015 года. Па слядах, знойдзеных на яе аўтамабілі і ў кватэры, адразу з'явілася версія, што спартсменку забілі. Падазрэнне ўпала на яе былога сужыцеля Дзмітрыя Вішталюка.

Дзмітрый на тры гады маладзейшы за Юлію. Ён нарадзіўся ва Украіне, у Луганску, потым сям'я пераехала ў Расію. Бацькі трагічна загінулі, і Дзмітрый пераехаў да дзядзі і цёці ў Рагачоў, дзе вырас і вывучыўся на плітачніка-тынкоўшчыка ў каледжы. Затым пэўны час ён жыў у Маскве, пасля перабраўся ў Мінск.

Юлія Балыкіна ў 23 гады пераехала ў Беларусь з Запарожжа, стала чэмпіёнкай краіны і першым нумарам зборнай на дыстанцыях 100 і 200 метраў.

## Выкладчык БНТУ знойдзены павешаным у аўдыторыі

Савецкі раённы аддзел Следчага камітэта праводзіць даследчую праверку па факце гібелі выкладчыка Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта.

Як паведамілі ў СК Беларусі, цела выкладчыка 1949 года нараджэння ў пятлі было знойдзена яго калегамі 31 мая каля 17 гадзін у аўдыторыі.

Паводле інфармацыі «Нашай Нівы», трагедыя здарылася з намеснікам дэкана аўтатрактарнага факультэта, які выкладаў прадметы «Тэхнічная эксплуатацыя аўтамабіляў» і «Рамонт аўтатранспарту».

«Гэта быў мой добры сябар і таварыш, вельмі добры чалавек. Праблем на працы ў яго не было аніякіх — гэта ўсё, што я магу сказаць, прабачце», — паведаміў Аляксандр Казацкі, выкладчык аўтатрактарнага факультэта БНТУ.

Вельмі добра выказваюцца пра загінулага і студэнты.

Абставіны здарэння высвятляюцца.

**УШ**

## Сцісла

### Маскі-шоу па-лунінецку

Злачынцы ў масках абрабавалі 69-гадовую жанчыну ў вёсцы Сасноўка (Лунінецкі раён). Забралі вялікія грошы. Праваахоўнікі просяць грамадзян, якія валодаюць якой-небудзь інфармацыяй, патэлефанаваць па тэлефоне 102. Ананімнасць гарантуецца.

### Загінуў на заводзе

На баранавіцкім заводзе жалезабетонных вырабаў 36-гадовы рабочы загінуў, зваліўшыся з вышыні чацвёртага паверха. Абставіны і прычыны няшчаснага выпадку высвятляюцца, бо ніхто не бачыў моманту падзення.

### Забіла малатком сястру

Позняй ноччу 29 мая ў Полацку адбылося забойства. Да трагедыі прывяла сварка дзвюх родных сясцёр.

20-гадовая дзяўчына, якая працуе на адным з мясцовых прадпрыемстваў, прыйшла дадому пасля вячэрняй змены.

Праз некаторы час у кватэру вярнулася яе беспрацоўная 23-гадовая сястра, якая была моцна п'янай. У выніку паміж дзяўчынамі адбыўся канфлікт, і малодшая сястра некалькі разоў ударыла старэйшую малатком па галаве.

### Дрэва аказалася мацнейшым

Ноччу 5 чэрвеня на трасе Хоцімск—Касцюковічы каля вёскі Янаўка аўтамабіль «Фальксваген Пасат» урэзаўся ў дрэва.


Аўтамабіль — ушчэнт. Але кіроўца нейкім цудам застаўся жывы.

### Не едзь сонным

Удзень 31 мая адбылося ДТЗ у Лідскім раёне. 23-гадовы кіроўца «Фальксвагена» стаміўся і задрамаў падчас руху. Яго машына выехала на сустрэчную паласу, дзе сутыкнулася з «Жыгулямі». 50-гадовы кіроўца «Жыгулёў» атрымаў цяжкія траўмы і праз дзве гадзіны сканаў у бальніцы.

**УШ**

# На ўласным досведзе: Алтай —

З Сібіры піша Зміцер Панкавец.



Аўтар ля ракі Катунь.



Непаўторная прырода — галоўнае багацце Алтая.

Пятнічны вечар. На цэнтральнай плошчы пасёлка Майма ў Горным Алтаі канцэрт. Нейкія хлопцы на сцэне махаюць шабелькамі, а з калонак нясецца: «Русь маладая, сілы нямерана, дайце каня мне да добры меч». Кожны другі маладзён, што ідзе патусавацца на плошчы, відавочнай мангалоіднай знешнасці. На Палацы культуры вісіць вялізны білборд: «Алтай — Расія: 260 гадоў адзінства». «Рацыю пайдзём да пагонім ворага, Русь маладая сэрцу дорога», — заканчваецца песня.

Майма — гэта невялікі населены пункт побач з Горна-Алтайскам, яго насельніцтва — 17 тысяч чалавек, прыкладна як у нашым Шклове ці Лепелі. Сюды мы прыехалі, каб наведаць музей каменю. Яго дырэктарка і ахоўніца Таццяна Кубельда бярэ ўказку і, як школьнікам, пачынае тлумачыць нам, дзе якія карысныя выкапні ёсць на Алтаі. «Вось гэта — слюдачка», — пяшчотна кажа яна, паказваючы нам слюду.

Спадарыня Кубельда хоць і прафесійны навукоўца-геолаг, але схільная да містыцызму. Напрыклад, расказвае, што ўран з Чарнобыльскага рэактара быў здабыты менавіта ў Горным Алтаі. «Алтай — гэта алтар свету», — пераканаля жанчына. Расказвае нам пра энергетычную сувязь, што звязвае горы Алтая і Гімалаі. Пра тое, што найвышэйшая гара края Бялуха знаходзіцца на роўнай аддаленасці ад усіх акіянаў свету. А яшчэ пра першага святара на Цялецкім возеры, які маліўся, едучы па вадаёме на чоўне, і лёд проста разыходзіўся перад ім. Дагаворваецца нават да таго, што Буда здабыў прасвятленне менавіта ў Алтайскіх гарах. Гэты музей цікавы не столькі сваімі экспанатамі, як дырэктаркай.

А яшчэ Таццяна Кубельда хваліла Пуціна за тое, што ён паставіў на месца Эрдагана, калі сказаў, што прарадзімай цюркаў з'яўляецца Расія, а менавіта Алтайскі край, і перажывала, што багацці Алтая прададуць кітайцам ці канадцам.









На музей Барнаула не хапае фарбы.





Сучасны музей у Горна-Алтайску зрабілі за грошы «Газпрама».

### Хто гаворыць па-алтайску?

Пра страх кітайскай экспансіі мне расказваў яшчэ адзін горнаалтайскі краязнаўца.

«Вельмі шмат чужынцаў да нас прыязджае. Я лічу, што трэба вучыць алтайскую мову, каб не дапусціць сюды чужакоў», — даверліва шаптаў ён мне каля крамы мёду.

Па яго словах, толькі каля 5% жыхароў Рэспублікі Алтай можа размаўляць на алтайскай мове, пасіўна разумее мову крыху болей, можа, каля 10%. Нармальнага вывучэння мовы ў школах няма. Саміх кітайцаў ні ў Горным, ні ў Рудным Алтаі я не сустракаў.

Алтайцы — гэта агульная назва цюркскіх народаў, што засяляюць край. Гэта тэленгіты, тэлеуты, кумандзійцы, тубалары. Калі пачынаеш чытаць гісторыю гэтых народаў, то першай прыходзіць думка, што беларусы не такія ўжо і лузеры, як часам нам настойліва навязваюць. Гэта ж колькі народаў і народнасцяў растварылася на прасторах бязмежнай Расіі, а беларусы ўсё ж змаглі выжыць і нікуды знікаць не збіраюцца.

### Музей за грошы «Газпрама»

Другі раз паралелі з Беларуссю прыходзяць на думку, калі ў Горна-Алтайску нас вядуць у шыкоўны Краязнаўчы музей. Такіх нават у Мінску няма, хіба што Вялікай Айчыннай, сучасны, прасторны, навенькі. Пабудаваны на грошы «Газпрама». Не была б Беларусь незалежнай краінай, можа, дзесьці ў Мінску ці Маладзечне, «Газпрам» бы таксама адгрохаў такі самы музей беларускай культуры.

Калі беларусы лічаць бацькамі нацыі паэтаў (Багушэвіч, Купала, Колас), то герой №1 алтайцаў — мастак Грыгорый Чорас-Гуркін, які вучыўся ў Шышкіна. Чорас — гэта старажытны алтайскі род, іх усяго каля сарака.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года пачынаецца барацьба алтайцаў за дзяржаўнасць. Чорас-Гуркін таксама далучаецца да яе, нават нейкі час узначальвае галоўны орган — Каракарум-Алтайскую акружную ўправу. Праз нейкі час мастака арыштоўваюць за сепаратызм, але ён змог уцячы спачатку ў Манголію, а пасля — у Тыву (на той час незалежную дзяржаву). У 1925 годзе Чорас-Гуркіна ўгаворваюць вярнуцца ў СССР, і першыя гады ён у захапленні ад новай краіны. У 1937-м Грыгорыя Чорас-Гуркіна расстрэльваюць «за стварэнне нацыяналістычнага падполля і шпіянаж на карысць Японіі».

Магутная карціна Гуркіна «Хан Алтай» сёння вісіць на самым прыкметным месцы ў Краязнаўчым музеі. Мілая экскурсаводка расказвае пра ўсё на свеце, пра паселішчы, што існавалі на Алтаі да нашай эры, пра воінаў-качэўнікаў, Джунгарскае ханства, нават пра старавераў, што некалі прыйшлі жыць на Алтай, вядома ж, пра мецэнатаў з «Газпрама», аднак ні словам не згадвае барацьбу алтайскага народа за незалежнасць. Усё гэта павінна забыцца.

Галоўны экспанатам музея з'яўляецца мумія «прынцэсы Укока». Яе знайшлі пры археалагічных раскопках у 1993 годзе на магільніку Ак-Алаха. Побач з ёй былі пахаваны шасцёра коней (што сведчыць пра высокае сацыяльнае становішча). Жанчына памерла прыкладна ў 25 гадоў ад раку малочнай залозы. Мясцовыя народы лічаць, што «прынцэса» стаіць на варце падземнага свету і не дапускае туды сілы зла. Рада старэйшын Алтая патрабуе перазахавання жанчыны і лічыць, што ўсе беды, якія звальваюцца на Алтай, адбываюцца праз тое, што мумія не можа знайсці свой спачын. Фатаграфаваць «прынцэсу Укока» строга забараняецца. А сачыць за муміяй прыязджаюць людзі з Масквы, што «апякуюцца» Леніным у Маўзалеі.

### Адпачынак для Пуціна

Горны Алтай — гэта край дзівоснай прыгажосці. Горы, азёры, рэкі, лугі прымушаюць цябе хадзіць з адкрытым ротам, а мозг — фіксаваць па тым, каб захаваць у памяці хаця б частку ўсёй гэтай пышнасці.

Рэспубліка Алтай займае другое месца сярод рэгіёнаў Расіі па чысціні, Алтайскі край — пятае.

Нездарма ўласную рэзідэнцыю «Алтайскае падвор'е» мае Уладзімір Пуцін. Кіраўнік Расіі прылятае на самалёце да Горна-Алтайска, а ўжо адтуль на верталёце да рэзідэнцыі, якая знаходзіцца высока ў гарах, з выдатным відам на ўпадзенне ракі Урсул у Катунь. Пры рэзідэнцыі знаходзіцца ферма па вырошчванні маралаў. Рогі маралаў (панты), лічыцца, маюць лекавы эфект і прадаюцца ў мясцовых аптэках і сувенірных лаўках. Летась, кажуць, Пуцін аж двойчы адпачываў на Алтаі, адзін раз у кампаніі былога прэм'ера Італіі Сільвіа Берлусконі.

Дарэчы, на Алтаі мне так і не давялося пабачыць 90%-най падтрымкі палітыкі кіраўніка Расіі, пра якую гэтак бадзёра рапартуюць тамтэйшыя СМІ. Я чуў дастаткова шмат крытыкі і Пуціна, і ваенных аперацый ва Украіне і Сірыі. Усё ж значная частка людзей не развучылася разважаць крытычна.

Цікава, што плакаты «Адзінай Расіі» ў Алтаі выкананыя на дзвюх мовах: спачатку на алтайскай, а потым на рускай. ЛДПР і

# край дзівоснай прыгажосці

**Што набыць на Алтаі?**

Мёд — тут яго сотні гатункаў. Алтайскі мёд вельмі шануецца.

Кедровыя арэшкі — сезон пачынаецца ў верасні-кастрычніку. У летні перыяд рэкамендуюць набываць толькі ў вакуумнай упакоўцы, бо ў шкарлупінні могуць выклікаць горыч у роце.

Бальзамы — іх таксама шмат гатункаў. І алкагольных, і безалкагольных.

Рыба — па трасе ў Горным Алтаі шмат месцаў, дзе прадаецца харыус і таймень.

Смала лістоўніцы — на Алтаі яе жуюць як жуйку. Хаця відавочнага лекавага эфекту не мае.

Чай з сібірскіх зёлак ідзе на ўра.

**Як дабрацца?**

Самалёты з Масквы ляцяць у Барнаул і Горна-Алтайск 4,5 гадзіны. Білеты ў два бакі можна набыць за 200—300 еўра.

**Час**

Розніца ў часе з Барнаулам — 4 гадзіны. Калі ў Беларусі, напрыклад, 16 гадзін, то ў Барнауле 20 гадзін.

**Колькі каштуе адпачынак?**

Пакоі ў курортных зонах Горнага Алтая пачынаюцца ад 15 еўра за двух чалавек. Ёсць і нашмат даражэйшыя прапановы. У мясцовых жыхароў можна зняць памяшканні за 5—10 еўра за ноч.

КПРФ у візуальным афармленні выкарыстоўваюць выключна рускую.

### Грэчка і хіпстары

Алтайскі край не пакінуў адчуванння занядбанасці. Большасць палёў, якія мне даводзілася бачыць, акуратна засеяныя грэчкай. Алтай — гэта лідар у Расіі па вырошчванні гэтай культуры. Дастаткова добрыя дарогі, а каля хатаў рэдка пабачыш гнілыя платы. У гэтым плане сітуацыя ў памежных з Беларуссю раёнах Расіі нашмат горшая.

І гэта прытым, што, па афіцыйных дадзеных, Алтайскі



**Мёд — гонар Алтая.**

край — адзін з найбяднейшых у Расіі. Такіх завоблачных заробкаў, як у паўночных рэгіёнах, там ніхто не мае. Гэта адчуваецца ў тым ліку па сталіцы края Барнауле — усё ж модна апранутай моладзі, хіпстараў, там заўважна меней, чым у Мінску.

### Сібірскія Афіны

Барнаул, які стаіць на перасячэнні невялікай рэчкі Барнаулкі (кажуць, што менавіта яна дала назву гораду, перакладаецца як «мутная вада») і магутнай, паўнаводнай Абі, пакідае дваякае адчуванне.

Некалі гэты горад Фёдар Дастаеўскі назваў «сібірскімі Афінамі». Рускія прыйшлі сюды дастаткова позна, бо ўглыб Сібіры іх рухала паляванне на пушнога звярка, а на Алтаі гэтага дабра не было. Барнаул быў такім своеасаблівым катлом культур, дзе варыліся рускія, алтайцы, немцы, манголы, казахі.

Савецкі Саюз зрабіў усіх аднолькавымі. І сёння ўжо, мабыць, цяжка знайсці істотныя адрозненні паміж Барнаулам ці Чытой. Засталося некалькі цікавых вулачак у гістарычным цэнтры горада, з адметнай драўлянай архітэктурай. Пры гэтым кідаецца ў вочы аблезлая фарба на фасадзе гарадскога музея, найстарэйшага ў Сібіры. І што падумае чалавек з Еўропы, калі такое пабачыць?

З нашай групай, дарэчы, быў француз Філіп. Аднойчы прамаўляючы, ён прызнаўся, што найбольш у Барнауле яго ўразілі аграмадныя закінутыя прамзоны. Калі звярнуць з галоўнага праспекта Леніна, то можа скласціся ўражанне, што трапіў на амерыканскі Дзікі Захад пачатку XIX стагоддзя. Стаіць нейкі салун (бар), яшчэ пару закінутых дамкоў, вецер ганяе пыл па бездаражы, бегаюць бадзяжныя каты.

Пры гэтым у Барнауле ёсць помнік ахвярам сталінскіх рэпрэсій, хоць многія яго з'яўленню супраціўляліся. З гэтых мясцін паходзіць расійскі апазіцыянер Уладзімір Рыжкоў. Выходзіць буйная незалежная газета «Свабодны курс». У гэтым плане многія гарады Расіі могуць пазайздросціць Барнаулу.

### Памаўчаць на Пікеце

У сяле Сросткі ў музеі Васіля Шукшына работніцы былі дужа незадаволеныя, што мы прыехалі пад канец рабочага дня, абураліся, не хацелі праводзіць экскурсію. Некалі тое самае ў мяне было ў музеі Францішка Багушэвіча ў Кушлянах.

Некаторымі фактамі музей уражвае, напрыклад, як пры Сталіну расстралялі бацьку будучага пісьменніка і рэжысёра.

Моцных артэфактаў хапае. Напрыклад, лісты маці, якія яна пісала на магілу сына.

Аднак музею страшэнна бракуе інтэрактыўнасці. Нідзе не чутно голасу Шукшына, нідзе не паказваюць кадры з ягоных фільмаў. Такія музеі робіцца артэфактамі мінулага, і без сучасных тэхналогій прыцягваць у іх людзей будзе ўсё цяжэй.

Над самімі Сросткамі, на гары Пікет, ёсць вялізны помнік Шукшыну (тут ставяць націск на першы склад). Пісьменнік басанож сядзіць над вёскай, гледзячы на дамкі, рэкі, горы. Мясцовыя так і кажуць: «Пойдзем да Макаравіча на Пікет памаўчым». Сапраўды, у гэтым месцы вельмі добра маўчыцца.

За некалькі кіламетраў ад Сросткаў зламася машына. «Это труба», — нечакана па-руску прамовіў наш француз Філіп. Было



**Падвясны мост да выспы Патмас у Чамале.**



**Помнік Шукшыну на Пікеце.**

смешна. «Макаравіч не хоча проста так адпускаць», — усміхнуўся наш алтайскі праваднік.

Пакуль чакалі іншай машыны, пайшлі ў мясцовую краму.

— Што ў вас ёсць выпіць? — спыталіся мужыкі.

— Я не разбіраюся, — абыякава адказала магазіншчыца.

— А мясцовыя што бяруць? — не здаваліся нашы.

У гэты момант дзяўчына абсалютна флегматычна выцягвае з-пад прылаўка невялічкі пузырок з ласьёнам «Віта-Септ». «96% спірту, самы ходавы тавар», — не міргнуўшы кажа яна. Нібыта і няма бяды, што на ім прапісана «толькі для вонкавага карыстання».

А пасля мы елі смачныя піражкі з яйкамі і пячонкай, што гатавала прыгожая руская жанчына ў шапіку ля трасы, і гулялі ў валейбол з мурзатымі мясцовымі дзецьмі. Не, на Алтай адназначна трэба прыязджаць яшчэ. Шкада толькі, што гэта так далёка.

**Барнаул — Мінск**

**Аўтар дзякуе за магчымасць наведаць Алтай Інстытуту Fojo (Швецыя), а таксама выдавецкаму дому «Алта-Прэс».**

**In memoriam**

# Жыў, нібы ляцеў на двух крылах

18 мая ў Вільні памёр беларускі мастак і пісьменнік Алег Аблажэй.

Ён быў сапраўдны віленчук — памяркоўны, талерантны, шматмоўны... Лёс звёў мяне першы раз з Алегам Аблажэем улетку 1989, калі ў Вільні, на Туравай гары, праходзіў устаноўчы з'езд БНФ.

Як сёння помню той дзень. Мы ўтрох, з Алегам Аблажэем і Сяргеем Дубаўцом, сустрэліся за абедам у «Паланзе» — танный рэстарацыі роўна насупраць праспекта Гедыміна. Пры канцы савецкіх часоў тут можна было хутка, танна і прыстойна падмацавацца. Хлеб тады наразалі зусім танюткімі скрылёчкамі.

Быў цёплы сонечны дзень. Мы прыселі да вялікага акна, дзе можна было аглядаць і вялікую залу, запоўненую віленскім людам, і сквер звонку, дзе была яшчэ магіла савецкага генерала Чарняхоўскага з вялікім чорным помнікам. Алег уводзіў нас у курс віленскіх справаў, жвава і жартаўліва распавядаючы пра ўсё чыста, што магло зацікавіць нас, гатовых перабрацца ў сталіцу над Вяллёю. А са свайго боку — яго вельмі натхняў наш прыклад, перспектыва рэзка павялічыць беларускую прысутнасць у распаленай тады палітычнымі жарсцямі Вільні. Але ў той сонечны зялёны дзень усё выглядала ціхамірна, зычліва і лагодна. Як мудры погляд мастака, адоранага талентамі й чуллівай душою...

І нішто яшчэ не прадказвала гарачую зіму, абарону тэлецэнтра і парламента Літвы. Алег Аблажэй браў удзел у варце на барыкадах разам са сваёй маладзенькай жонкаю — мастачкай Крысцінай Балаховіч. Ён быў адным з самых радыкальных прыхільнікаў літоўскага «Саюдзіса». Ён не прыпускаў паўтаноў і размываў у пытаннях маралі і годнасці. Меў гонар.

Алег Аблажэй заўсёды падкрэсліваў сваё паходжанне з Наваградчыны. Хоць, калі быць дакладным, ягоная малая радзіма — вёска Лязневічы — у Дзятлаўскім раёне. Бадай, ён адзіны з мастакоў у сучаснай Беларусі, хто атрымаў ажно дзве вышэйшыя адукацыі: пасля графічнага факультэта Віцебскага педінстытута ён у 1985 скончыў аддзяленне графікі Віленскага мастацкага інстытута. І гэтая грунтоўнасць адчувалася і ў ягоным мастацтве, і ў манеры паводзінаў. Ён здзіўляў мяне глыбінёй ведаў і несупынным жаданнем вучыцца. Усё жыццё. Ён вольна гаварыў і пісаў не толькі па-беларуску, але і па-польску, і па-літоўску. Нават перакладаў узаемна з гэтых моваў паэзію.

Аблажэй быў віртуозам графічных экспрэсіўных малюнкаў. Ён шмат і плённа працаваў як мастак-графік, ілюстраваў багата кніжак для беларускіх, віленскіх, варшаўскіх, маскоўскіх выдавецтваў. Усіх сёння і не злічыць. Але адначасна імкнуўся да жывапісу. Выдатны майстар графікі пісаў элегічныя пейзажы і рамантычныя партрэты. А ў многіх беларусаў у свеце ёсць арыгінальныя паштоўкі, зробленыя ім, з розных нагодаў.

У першай палове 90-х Аблажэй супрацоўнічаў з аднолькавай «Нашай Нівай» — у газеце друкаваліся яго графіка і тэксты.

А яшчэ ён пісаў казкі. Папольску і па-беларуску. У Польшчы пабачылі свет «Siedem bajek o królewnach», а летась у Мінску выйшла яго «Красамоўнае сэрца».

Ён жыў, нібы ляцеў на двух



крылах. Графік і жывапісец, патрыёт Беларусі і Літвы, беларус і паляк, тонкі лірык, дакладны чалавек з пяшчотным сэрцам і палымяны рэвалюцыянер, чалавек бескампрамісна маральны. Такім ён быў.

Мастак і пісьменнік, добры і надзейны сябра Алег Аблажэй пакінуў наш свет, адышоўшы ў вечнасць. Засталася памяць. Светлая, як той прахалодны зялёны травеньскі дзень, калі, у міжчассе 1991 года, мы, седзячы ля вялікай шыбы «Палангі», глядзелі на віленскае жыццё, якое было ўжо зусім іншым. Як іншай цяпер сталася беларушчына ў Вільні. Без Алега Аблажэя...

**Сяргей Харэўскі**

# Зямля татарына Мусы

Пра загадку паходжання назвы аднаго з мінскіх раёнаў піша гісторык-архівіст **Зміцер Дрозд**.

На сучаснай карце беларускай сталіцы мы бачым мноства назваў, паходжанне якіх можам адразу ж вытлумачыць хоць бы на ўзроўні так званай народнай этымалогіі. Камароўка — было шмат камароў, Чыжоўка — шмат чыжоў, Сляпянка — сляпнёў... Праўда, гэтыя тлумачэнні не заўсёды слушныя: так, назва мінскага вадасховішча і раёна Дразды хоць і звязаная з птушкамі, якіх там сапраўды шмат, узыходзіць да імя колішніх уладальнікаў — сям'і Драздоў. Так, не заўсёды простае тлумачэнне аказваецца слушным.

Але ёсць і цалкам непразрыстыя назвы. Напрыклад, Масюкоўшчына. Ні на першы, ні на другі погляд слова не паддаецца тлумачэнню. Але, напэўна, навукоўцы ўжо даўно ўсё высветлілі, і нам застаецца толькі скарыстацца вынікамі іх працы. Так, простае тлумачэнне паходжання гэтай назвы дадзена ў кнізе «Памяць» Мінскага раёна: «Масюкоўшчына — вёска, з 1990 г. у г. Мінск. Назва ўтворана ад прозвішча Масюкоў».

Назвы, якія сканчаюцца на —шчына, сапраўды звязаныя з імёнамі заснавальнікаў або ўладальнікаў. Напрыклад, Васілеўшчына (Васіль), Васькоўшчына (Васька) і да т.п. Але хто ж гэты загадкавы Масюкоў, у гонар якога назвалі вёску? Гучанне пададзенага прозвішча нетыповае для беларусаў — ладна б, Масюк або Масюкевіч, але Масюкоў — можа, нейкі расійскі чыноўнік, які набыў тут зямлю? А калі? Бо з'явіліся яны тут толькі пасля расійскай анексіі нашых земель, г.зн. не раней за 1793 год. А тая ж кніга «Памяць» паказвае, што Масюкоўшчына «ў 1791 г. — вёска маёнтка Плябанцы Мінскай парафіі, уласнасць каталіцкай Царквы». Значыць, вёска існавала нашмат раней.

Прапаную сваю версію паходжання гэтай назвы.

### Ніякіх слядоў Масюкова

Учытаемся яшчэ раз у энцыклапедычны артыкул з «Памяці». Учытаемся ўважліва: «У 1791 г. Масюкоўшчына — вёска маёнтка Вяснінка Каралішчавіцкай парафіі, шляхецкая ўласнасць. У 1791 г. — вёска маёнтка Плябанцы Мінскай парафіі, уласнасць каталіцкай Царквы. У 1800 г. — вёска, уласнасць Г. Гардзялкоўскай (частка вёскі належала ксяндзу мінскай каталіцкай плябаніі Ваньковічу), 8 двароў, 48 жыхароў. У 1815 г. — вёска, уласнасць М. Гілевіча, у 1858 г. А. Вярыгі».

Як жа так? Масюкоўшчына ў 1791 годзе адначасова і вёска маёнтка Вяснінка, і вёска маёнтка Плябанцы? І якім чынам сучасныя Вяснінка і Масюкоўшчына апынуліся аж у «Каралішчавіцкай парафіі»? Нават цяпер, калі паспрабаваць на грамадскім транспарце даехаць з Масюкоўшчыны ў Каралішчавічы, на гэта сыдзе нямала часу. А ў тыя часы каб вернікі, найчасцей пешшу, хадзілі на службу ў касцёл, размешчаны на проціглеглым баку Мінска на адлегласці 20 кіламетраў, калі можна было хадзіць у некалькі бліжэйшых касцёлаў? А вось самі Плябанцы, якія захаваліся і да нашага часу, сапраўды, значна бліжэй да Каралішчавіч. Хоць, вядома, можна гэтаму знайсці тлумачэнне: часта пэўным цэрквам, касцёлам або манастырам людзі адпісвалі свае зямельныя надзелы, і яны маглі знаходзіцца далёка ад царкоўных уладанняў. Вось мы і бачым, што ў 1800 частка вёскі належала Гардзялкоўскай, а другая частка — ксяндзу Ваньковічу.

У падымных рэестрах Мінскага павета за 1775 Масюкоўшчына названая фальваркам, і разам з фальваркам Плябанцы належаць яны мінскаму ксяндзу Ваньковічу. А вось маёнткам Вяснінка, размешчаным за Мінскам, валодае пан Яленскі — мазырскі староста, і знаходзіцца ён у застаўным карыстанні ў пана Высоцкага. Для нашага асноўнага пытання гэтыя акалічнасці пакуль маюць толькі адно значэнне: ніякаму Масюкову гэтая вёска ніколі не належала. Паспрабуем прасачыць гісторыю Масюкоўшчыны яшчэ глыбей, і для гэтага звернемся да архіўных дакументаў.



**Служба ў мінскай Саборнай мячэці на вуліцы Татарскай. Пачатак XX ст.**



**Зміцер Дрозд**

гісторык-архівіст, аўтар кніг «Землеўласнікі Мінскай губерні 1861—1900», «Землеўласнікі Мінскай губерні 1900—1917». Пасля Плошчы-2010 быў асуджаны за ўдзел у «масавых беспарадках» на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Выйшаў на волю ў жніўні 2011.

### «Часова», якое расцягнулася на сто гадоў

Самуіл Яленскі, мазырскі гараднічы, набыў маёнтак Вяснінка «з усімі сенажацямі і належным да яго абрубам Масюкоўшчынай і з паселенымі ўїм сялянамі» па купчай крэпасці 28 кастрычніка 1744 ад Мацея і Івана Фурсаў, Івана і Хрысціны Скваркоўскіх. Хрысціна Скваркоўская з Алісевічаў у першым шлюбе была жонкай Гаўрылы Фурса. Сям'я ж Фурсаў валодала Вяснінкай больш за сто гадоў па застаўным праве — г.зн. маёнтак быў дадзены ім як заклад за атрыманыя ў пазыку грошы, і працягвалася гэта валоданне толькі да вяртання пазыкі.

Найбольш поўна ўсю гісторыю Вяснінкі выклаў у 1855 адзін з будучых яе ўладальнікаў — памешчык Мінскага павета, адстаўны капітан Аляксандр Іванаў, сын Дарэўскага-Вярыгі (нашчадкі святара Вярыгі, якія вывучыліся, «выбіліся ў людзі», набылі зямельныя ўладанні пад Мінскам, дадалі да прозвішча пафасны прыдомак Дарэўскі). Прывядзём толькі найбольш важныя для нас фрагменты з яго прашэння:

«Магістрат горада Мінска ў 1669, пазычыўшы на патрэбы горада ў Івана Фурса 230 чырвонцаў, аддаў у заклад за іх на шэсць гадоў частку зямлі пустой, лесам зараслай, якой горад валодаў згодна з прывілеем каралёў польскіх вотчынным правам; з прадастаўленнем права карыстацца ёю надалей да выплаты ўсёй сумы цалкам; роўна з прадастаўленнем Фурсу права расчышчаць зарослую зямлю, араць, забудоўваць і ўсякую карысць з яе мець... На падставе вышэй прапісаных закладных здзелак Іван Фурс, а потым яго пераемнікі, расчысцілі тую пустку, угнойваючы, у многіх месцах забудавалі так, каб яна магла прыносіць карысць і прыбытак, чаго раней не было. Але паколькі горад не толькі ў прызначаны ў пагадненні тэрмін, але цягам амаль 200 гадоў закладзенай зямлі не выкупіў і, як пазычаных грошай, так і выдаткаў на расчыстку, угнаенне і забудову не аплаціў, згаданая закладная зямля ў ліку іншых пераемнікамі Івана Фурса пераўступленыя Самуілу Яленскаму...»

Такім чынам, яшчэ ў XVII стагоддзі Фурс і яго нашчадкі сталі «часова» валодаць зямлёй пад Мінскам. Яны стварылі фальварак Вяснінка, да якога сталі прыкупляць розныя землі і сенажаці ў суседзяў. Для нас жа найбольш цікавая наступная здзелка: у 1695 Юрый Фурс набыў па купчай крэпасці ад Аляксандра Сяліцкага «вотруб Масюкоўшчына ў 8 валок зямлі». У перакладзе на сучасныя адзінкі вымярэння плошчы гэта каля 170 гектараў. На ім Фурсы пасялілі сялян і стварылі вёску з такой жа назвай — Масюкоўшчына.

### «Дзед мой Абрагім перад нашэсцем маскоўскіх войскаў пабудаваў фальварак»

Падобна, каб атрымаць адказ аб паходжанні тапоніма, нам трэба зазірнуць яшчэ глыбей. На шчасце, патрэбныя дакументы захаваліся. У 1745 у акты Галоўнага трыбунала Вялікага Княства Літоўскага была занесеная купчая крэпасць, якая змяшчае важныя для нас звесткі па гісторыі Масюкоўшчыны.

6 лістапада 1745 у судзе Галоўнага трыбунала Вялікага Княства Літоўскага адвакат і лоўчы Жамойцкі Мікалай Жыцкі зачытаў сведчанне татарына Мінскага ваяводства Аляксандра Сяліцкага, інтарэсы якога прадстаўляў:

«Я, Аляксандр Абрагімавіч Сяліцкі, татарын Мінскага ваяводства, выдаў гэтую купчую крэпасць у тым, што я, маючы вядомую зямлю, нікому не закладзеную, на адлегласці ў адну мілю ад Мінска ва ўрочышчы Калодзежы восем валок за могілкамі татарскімі старымі, з лесам, цяпер спустошаным, з сенажацямі, зараснікамі і ворнымі палямі, цяпер зарослымі, на якой зямлі дзед мой Абрагім Гіліяшавіч перад нашэсцем маскоўскіх войскаў пабудаваў фальварак, у межах з грунтамі ксяндза Мінскага плябана праз балота да Ржаўца рэчкі пад бор таго ж ксяндза Мінскай плябаніі, як то відаць са старога права, набыты дзедам Абрагімам Гіліяшавічам ад Васіля Занковіча Астрашаніна, мінскага мешчаніна, 27 снежня 1589. Пасля смерці дзеда нашага зямля дасталася спадчынай бацьку майму Сялемшу Абрагімавічу і дзядзьку майму Мусу Абрагімавічу, якія без дзяльбы памерлі. За смерцю іх гэтая зямля дасталася мне, Аляксандру Сяліцкаму, па бацьку маім Сялемшу, і стрыечнай маёй сястры Хаве Ляўшэвічавай... Па вяртанні маім з ваеннай службы швагер мой Ляўшэвіч і стрыечная сястра Хава Масюкоўна, задаволіўшыся прыбыткамі, атрыманымі ад зямлі ў маю адсутнасць, пераказалі яе на імя маё. У далейшым я, пакліканы Юрыем Фурсам аб выплаце доўгу, які належаў памерламу мінскаму бургамістру Івану Фурсу 160 коп літоўскіх грошаў, пазычаных памерлым айцом маім Сялемшам Абрагімавічам і дзядзькам Мусом Абрагімавічам; ведаючы я аб сапраўднасці той пазыкі, але не маючы, чым выплаціць, згаданую зямлю прадаў Юрыю Фурсу за 250 коп літоўскіх грошаў. З гэтай сумы адлічылі доўг, яшчэ засталіся для мяне 90 коп... У чым выдаю гэтую купчую крэпасць... зацверджаную маім подпісам па-татарску па няведанні граматы польскай ... Пісана ў Мінску, 26.12.1695»

### Муса — гэта Майсей

Гэты дакумент, хоць у ім зусім не згадваецца Масюкоўшчына, утрымлівае адказ на пытанне, зададзенае ў пачатку артыкула. У 1589 татарын Абрагім Гіліяшавіч Сяліцкі купіў у мешчаніна мінскага Васіля Занковіча Астрашаніна ўрочышча Калодзежы, якое пазней дасталася яго дзецям, а яшчэ пазней стала вёскай Масюкоўшчына. Такім чынам, Масюкоўшчына — гэта зямля татарына Мусы.

Маё меркаванне пацвярджаецца і іншымі дакументамі, дзе ўказваецца, што Аляксандр Сяліцкі прадаў Фурсу «два абводы зямлі: адзін ад Тарасаўскай дарогі да Масюкоўшчыны, то бок да зямлі і лесу Мусы Абрамавіча татарына, а другі, перайшоўшы зямлю Мусы татарына, або Масюкоўшчыну, мяжу градскаю з мінскай плябаніяй рэчкаю Ржаўцом да рэчкі Свіслачы і рэчкі Вяснінка ў шырыню і даўжыню».

Муса — гэта мусульманскі варыянт біблейскага імя Майсей. У кнізе «Як у нас клічуць» Сымон Барыс прыводзіць і такі беларускі варыянт гэтага імя — Майсюк. Як Янка — гэта Янук, а Павал — Паўлюк. Успомнім, што адна з уладальніц гэтай зямлі, Хава, мела імя па бацьку Масюкоўна.

Здаецца, што гэта той рэдкі выпадак, калі мы можам назваць канкрэтнага чалавека, імя якога каля 400 гадоў знаходзіцца на карце Мінска — татарын Муса Абрагімавіч Сяліцкі. І нагадвае яно пра тыя часы, калі ў Мінску і яго ваколіцах была мячэць, некалькі татарскіх могілак, татарскія гароды, а таксама фальваркі з нязвыклымі для беларуса назвамі накшталт Бейсалоўкі, якая пазней стала Весялоўкай.

Такім чынам, не нейкі «Масюкоў», а непазнавальная трансфармацыя ад біблейскага Майсея праз мусульманскага Мусу,ператвораная ў беларускага Масюка, дала назву аднаму з раёнаў Мінска — Масюкоўшчыне.

**Алесь Кіркевіч.** Апавяданне.

# Зацкаваны воўк

*У аснову апавядання пакладзеныя рэальныя падзеі, што мелі месца ў Горадні ўлетку 1926 года.*

Цяжкія дзверы адчыніліся, у памяшканне, дзе па лавах сядзела некалькі хлопцаў, вусаты мужчына ў карычневым паліто ды бабуля з кошыкам, закрытым хусткай, зайшоў мажны чалавек у чорнай форме з кукардай-арлом на круглай фуражцы.

— Кто ту ест Клінцэвіч?

— Я естэм.

— Ходзь зэ мноў.

За абшытымі бляхай дзвярыма даўжэзнай кішкой — калідор з бетоннай выцертай падлогай ды цьмянымі лямпамі пад столлю праз кожныя пяць-сем метраў.

— Гадаш дзесенць хвіль і спердаляш. Розумеш?

— Так.

Яны спыніліся перад наступнымі дзвярыма, таксама абшытымі бляхай, толькі з вочкам на ўзроўні галавы. Зграбнымі рухамі «чорны чалавек» адамкнуў іх і запусціў худога, як аплатка, наведніка ў пакой. За спінай бразнуў метал. Дзверы зачыненыя.

Шэры пакой. Невялічкае закратаванае акенца пад столлю. За сталом — такі самы «хлопец-аплатка», толькі, мабыць, яшчэ худзейшы, з рукамі за спінай.

— Вітаю, браце!

— Вітаю, — млява адказаў скаваны, а пасля паўзы дадаў ужо больш рашуча: — Я забію яго.

* * *

— Нешта ты зашмат паліш, Міша, — прамовіў паголены пад нуль чалавек, гуляючыся з попельніцай. — Зрэшты, не дзіўна... Не дзіўна для таго, чый партрэт надрукаваў «Чырвоны сцяг».

Твар лысага чалавека, які сядзеў за сталом у пакойчыку гатэля, нагадваў маску з вузкімі шчылінкамі вачніц. Праз іх пазіралі цёмныя вочы, колер якіх і ўдзень цяжка было вызначыць, а тут яшчэ і святло бляклае. Ён вытрымаў паўзу, перакруціўшы некалькі разоў алюмініевую попельніцу ў форме галавы Касцюшкі. Як яе ні паварочвай — з'яўляецца твар правадыра паўстання, партрэт-перавёртыш. Лысага чалавека звалі Васіль Рагуля.

— Нават на паліграфію не пашкадавалі, — манатонна працягнуў «маска». — Ты ж ведаеш, што гэта значыць?

— Здагадваюся, — коратка кінуў суразмоўца, вусаты хударлявы мужчына гадоў трыццаці пяці.

— Ну вось... А чаго ты хацеў, Міша? На сустрэчы ты прыходзіш з дзіўнымі людзьмі, якія гавораць па-расейску, але з выразным польскім акцэнтам. Ты сам разумееш, што гэта значыць... У дадатак да ўсяго цябе раптоўна выпусцілі... Выпусцілі чалавека, які рыхтаваў паўстанне ў Заходняй Беларусі, — «маска» іранічна пасміхнуўся, не пазіраючы суразмоўцу ў вочы.

Зацягнуўшыся папіросай-пустыхай, якія спраўна штодня рабіліся на гарадзенскай табачнай фабрыцы Шарашэўскіх, ён перавёў позірк у акно, за якім цыбаў дождж. Святло электрычных ліхтароў адбівалася на бляшаным падваконні ды шахаўніцы новапакладзенага бруку Дамініканскай вуліцы.

Фота ў «Чырвоным сцягу», дзе зрэдку друкаваліся нават партрэты правадыроў і паслоў сойму, магло азначаць толькі адно — справы ў героя неважнецкія. Рэдакцыя зрабіла пад фота кароткі подпіс: *«Міхаіл Гурын, правакатар паліцыі»*. Гэта быў своеасаблівы «гончы ліст», чалавек ставаў па-за законам, забіць яго — справа гонару для кожнага камуніста і беларуса.

Праз сто гадоў бляклае фота на жоўтай газетнай паперы застанецца адзінай зачэпкай для гісторыкаў, каб уявіць твар рэвалюцыянера, палітвязня ды архітэктара «сецэсіі» або расколу ў КПЗБ Міхаіла Гурына-Миразоўскага, вядомага пад нізкай падпольных псеўда — Стах, Ян, Легенда, — а ў сапраўднасці ўраджэнца наднёманскіх Ярэмічаў Міхала Ханевіча.

* * *

— Нешта, Сямёне, паліць мне цяжка стала, ведаеш? — робячы паўзу па кожным слове, цадзіў бялявы хлопец, перапвараючы «л» ва «ў» на польскі манер, — Матка кажа, што модліцца за мяне нехта, каб кінуў дурное. Яна сама хіба і модліцца на ружанцы, бо так казала. За ўсю сям'ю нашую модліцца штодня: і за Касю, і за Лешэка, ну і за мяне, каб за навуку ўзяўся ды махорку кінуў. Я гэта адразу зразумеў. А вось шваґро мой, Сенька, паліць — і нічога яму не робіцца. Ці тое грудзі моцныя, ці тое... няма каму мадліцца за яго. Ты як лічыш, Сямёне?

У адказ Сямён пусціў струменьчык дыму на суразмоўцу ды паглядзеў убок.

— Ты хоць памятаеш, навошта ты тут?

— Я... ясна, што памятаю.

— Што ты памятаеш?

— ...гніль вычышчаць, як таварыш Бес сказаў.

— Цішш... — шыкнуў на суразмоўцу Сямён, зняў клетчатую кепку ды правёў далонню па лбе.

Хлопцы туліліся ў цёмнай браме, з якой было відаць кавалак Дамініканскай ды акрайчык гатэля «Гандлёвы». Лета пераваліла за палову, набліжаўся праваслаўны Ілля. Ночы, асабліва пад ранак, станавіліся халаднейшымі, таму суразмоўцы, каб не задубець, паўзверх кашуль нацягнулі пінжакі ды паліто. Хто ведае, колькі чакаць прыйдзецца, каб «гніль вычысціць».

— Слухай сюды, малы, — не выпускаючы самакрутку з зубоў, засяроджана пачаў Сямён. — Слухай ды запамінай. Госць наш, як выйдзе з гатэля, імаверна, пасунецца па Напалеонаўскай. Можа звярнуць на Басняцкую, але найхутчэй... Слухаеш?!

— Та-так.

— Найхутчэй, ён пойдзе ажно да Пілсудскага і толькі там ля дома доктара, з вежай каторы, зверне налева. Там у яго справа ёсць.

— Якая справа?

— Шлёндра там яго жыве.

— А скуль ведаеш?

— Таварыш Зямляк казаў. А так, наогул, то ты маеш ведаць тое, што табе трэба — і годзе.

— Але ж ты...

Побач зарыпелі дзверы, і на брук лёг прастакутнік святла з вітальні. Сямён урос у цагляны мур, хуткім рухам схаваўшы цыгарку за спінай. Стары з дзвюма торбамі ды кіем прычыніў дзверы ды пасунуўся кудысьці ў бок Юрыздыкі. Сямён, для якога гэта імгненне расцягнулася на гадзіну, выдыхнуў ды толькі зараз заўважыў нічым не збянтэжаны твар Гжэська.

— Сямё-оне, дружа, маеш яшчэ махорку на самакрутачку, га?

* * *

— Заб'юць цябе, Міша, — «маска» строс попел на алюмініевага Касцюшку, а другой рукой нахіліў бутэльку «Выбаровай», разліваючы белую вадкасць па кілішках, — або дэфензіва, а спіхнуць на камуністаў, або камуністы, а скажуць, што дэфензіва. Ты — зацкаваны воўк.

Стах пасміхнуўся, падцягнуў кілішак бліжэй да сябе ды кульнуў. Тое самае, але крыху запавольненымі рухамі ды не заплюшчваючы вачэй, зрабіў «маска». Сцягнуўшы са стала лустачку сала з паўкругам шэрага хлеба, праз імгненне Гурын зноў запаліў.

— Ведаеш што... мы цябе пашлём у Нямеччыну ад Пасольскага клуба, — выціраючы белай сурвэткай вусны, зноў азваўся да госця «маска». — Будзеш там нашым прадстаўніком. Перасядзіш, пачакаеш, заадно і пазнаёмішся з людзьмі, карыснымі для беларускай справы...

— Не хачу, дзядзько, — прамовіў Гурын, нібы вярнуўшыся ў гатэль са схаванага свету сваіх думак і планаў. — Не для таго я сюды прыехаў тры гады таму.

— А для чаго ты прыехаў з сяброўкай сваёй? Для чаго цябе сюды разведупр закінуў?.. Падняў ты паўстанне? Ці не? А мо гэта тыя ж хлопцы, з якімі ты хацеў урадавыя будынкі займаць ды пастарункі паліць, тваю ж рэдакцыю «Бальшавіка» спалілі? А цяпер яшчэ і партрэт гэты...

— Не тыя ж. Ёсць правадыры, а ёсць хлопцы, якія не цямяць, што робіцца...

— А ты хто ў гэтай сітуацыі? Калі табе Троцкі зброю і грошы даваў — ты цяміў, што робіцца? Ці ён табе даваў, каб ты на вуглах старой Польшчы «беларускі дом» збудаваў, чысты ды светлы?..

— Пайду я, дзядзько.

Гурын адсунуў пусты кілішак ды ўстаў з-за стала. Прускі насценны гадзіннік з маленькім якарам на цыферблаце паказваў палову на першую. Дождж на двары сціх. Недзе побач, нібы адразу за акном, заліваўся салавейка.

— Чакай, Міша.

Стах, які ўжо паспеў накінуць чорнае паліто ды ўзяць капялюш у руку, моўчкі развярнуўся.

— Як там Марта?

— Не ведаю.

— Чуў, што пайшла ад цябе.

— ...

— Куды зараз?

— ...да яе.

— На Пілсудскага, значыць... Ну, бывай здаровы.

— Бывайце, дзядзько.

— Будзеш калі раптам у Ярэмічах, матцы ды дзядзьку вітанні перадавай.

— Пастараюся.

* * *

На завулку каля Дамініканскай было ціха. За апошнюю гадзіну міма прабег толькі чорны сабака. Падышоў, панюхаў хлопцаў ды зноў схаваўся ў цемры.

Сямёну падавалася, што «госць» ужо не выйдзе і заначуе ў нумары. Сядзець у браме да раніцы не хацелася, тым больш што поруч мог прайсці нехта страшнейшы за чорнага сабаку ды спытаць легітымацыю. А там і кішэні спраўдзіць...

Тады браўнінг трэба было б выкарыстаць не паводле прамога прызначэння. А пасля бегчы на Завяршчызну, перакрочыць Юрыздыку ды Літоўскі ручай, прайсці вузкімі сцежкамі, мінаючы рэдкія калонкі, не абяртаючыся на брэх сабак, каб нарэшце дабрацца да Пышак, дзе можна перабыць да ранку, а там ужо праз Мелавыя горы падацца да Грандзічаў.

Сямён ведаў таксама, што Гжэсік, ягоны калега, зусім не пераймаецца такімі пытаннямі, а думае, найхутчэй, пра мамку, калдуны з мясам, свайго белага сабаку ці нейкія іншыя дзіцячыя бздуры, пра якія ён, адказны за акцыю, ужо паспеў наслухацца за вечар.

Хлопец прысеў на кукішкі, грэючы спіною цагляны мур, ды ўтаропіўся ў брукоўку. ...Перад яго вачыма, як гэта часта здаралася апошнімі днямі, пачалі зноў, як некалі, праплываць нёманскія хвалі, зашумела хвоя. Там, унізе, ля берага, ледзьве чутна біліся бартамі чаўны, а на другім, больш пакатым, спуску да вады былі раскіданыя бярвёны, парэшткі разбітага плыта.

Яны з хлопцамі, весела перагаворваючыся, цягнуліся на ўзгорак, дзе ўжо стаяла некалькі дзядзькоў. Для канспірацыі неслі з сабой у кошыках гарэлку ды паесці тое-сёе. Пузатыя бутэлькі з мутнай вадкасцю, выдзьмутыя зусім поруч, у Бярозаўцы, біліся сценкамі не горш за чаўны. Так навучыў таварыш Бес, які ішоў наперадзе, спрактыкаваны падпольшчык і «дзяржаўны злачынца».

Пасярэдзіне невялікай паляны быў бугарок, прыкрыты свежым ядлоўцам, відаць, магіла. Па коле грубка была абкладзеная камянямі. Сямён тады задумаўся: няўжо іх прыцягнулі ад самага Нёмана? Нехта тут сем патоў праліў, дакладна!

Зверху курган быў прыкрыты двума адрэзамі тканіны: рэвалюцыйным чырвоным і таямнічым бел-чырвона-белым...

— Лядзі-лядзі! — нервовы шэпт «малога» перарваў кароткую медытацыю, Сямён вярнуўся ў рэчаіснасць.

Насупраць, метраў за трыццаць ад хлопцаў, адчыніліся дзверы, нібы на суцэльна чорнай шахматнай дошцы з'явілася самотная белая клетка з цёмнай фігурай на ёй. На парозе стаяў чалавек, захутаны ў паліто, ды падпальваў цыгарэту.

* * *

Дымок з коміна павольна распушчаўся ў зорным жнівеньскім небе. Самотны струменьчык ледзьве падымаўся над крытай гонтамі страхой ды поўз далей у бок Нёмана. На Рыбацкай у гэтую ноч тапілася толькі адна хата. Дымам з яе сыходзілі два кепі ў клетку ды пара брызентавых плашчоў.

У куце пакоя перад пацямнелым ад часу картонным абразом Маці Божай Чанстахоўскай укленчыў Гжэсік, ці тое нашэптваючы бабуліну малітву, ці тое плачучы. Невядома, ці Багародзіца чула, але ўшнараваны твар з абраза глядзеў сувора і дапытліва.

На кухні гарэла святло, гаспадыня сярэдніх год вышывала, здзяйсняючы штодзённы рытуал, а мажліва — супакойваючы нервы. Пальцы не слухаліся, таму крыжык не выходзіў, сіне-зялёна-чырвоная ваза з кветкамі, што мела паўстаць на белай тканіне, не давалася жанчыне, нібыта намякаючы на банальнасць сюжэту ў такі неспакойны час.

Сямён з аголеным торсам, у карычневых бруках з плотнай тканіны, замацаваных трочкамі на дужых плячах, паліў, раскінуўшы рукі па металічных кратках рыпучага ложка. Толькі што ён у чарговы раз перамяшаў ды дакінуў у «галандскую» міжпакаёвую печку, выкладзеную белай кафляй станіслаўоўскіх майстэрняў, новыя шматы, нарэзаныя з сённешніх «рабочых строяў».

Агонь за чугуннымі дзверцамі гуляўся кавалкамі тканіны, перакручваючы іх і ператвараючы ў смярдзючы дым ды незвычайныя «слаісты» попел, які варта было разбіваць ды перамешваць зноў і зноў. Гульня агню займала ўвагу Сямёнавых шэрых вачэй, але думкі былі далёка адсюль, ссунутыя ўверх па цячэнні Кронана-Нёмана, ракі часу...

Зноў і зноў у сполахах праплывалі твары людзей, якія згуртаваліся каля невялічкага кургана, прыкрытага пасмамі сцягоў. Зухаваты таварыш Бес са схаванай у плечы галавой злева, таварыш Шэлест у акулярах з вечна засмучаным тварам пасярэдзіне ды... таварыш Стах, з выразнымі чорнымі вачыма ды сухарлявым выцягнутым тварам, справа.

Вочы таварыша Стаха былі запаленыя, вусны прамаўлялі радкі камсамольскай прысягі, якія ўжо хорам, паклаўшы кулак на сэрца, паўтаралі хлопцы, з Сямёнам уключна, часпочас кідаючы адзін на аднаго касыя позіркі, маўляў, ці ўсё правільна кажацца.

Гэтыя запаленыя вочы Сямён сёння ўбачыў другі раз у жыцці, поўныя адчаю і здзіўлення, якія пасля замяніла іронія і... лёгкасць. Так, ён лёгка сустракаў кулю, нібы чакаў яе ўжо не першы дзень, нібы адмыслова шукаў з ёй сустрэчу на паўцёмных гарадзенскіх ды віленскіх завулках, нібы ад гэтага рандэву залежала нашмат больш, чым ад спаткання з Мартай. Але куля падманула абодвух.

Пасля першага, няўдалага, стрэлу, Сямёнаў браўнінг выпусціў яшчэ сем набояў, але ў «госця» спрацаваў інстынкт — ён пачаў пятляць між дрэваў, пасля кінуўся на сярэдзіну пустой вуліцы Пілсудскага, а пазней спрабаваў нырнуць у завулак, пакуль не ўпаў як падкошаны, метраў за сотню ад дома «сваёй шлёндры».

Седзячы каля печы, Сямён не ведаў, што таварыш Стах яшчэ падымецца ды здолее вярнуцца ў гатэль, у якім спыніўся Рагуля, і пагрукае ў дзверы з кароткай просьбай: «Адчыні». Так паранены звер хаваў след, адводзячы драпежніка ад логава, дзе жыла ягоная жанчына... Гурын не ведаў, што чалавек, які страляў у яго восем разоў, як пасля напіша польская прэса, будзе страляць яшчэ раз — ужо ў Вільні, на Антокалі, больш трапна і рашуча.

...Марта ў гэты вечар не чакала нікога, меланхалічна гартаючы лісты з ажурнымі літарамі і шматлікімі клічнікамі, напісаныя па-польску. Часамі яна ўсміхалася, неахайна страсаючы попел з файкі на шчарбатую талерку з вецертай манграмай. Калі на вуліцы прагучалі першыя стрэлы, яна зачыніла акно ды згасіла лямпу.



**Алесь Кіркевіч**

Нар. 1989 у Гродне, у сям'і гісторыкаў. Быў адным з лідараў Маладога фронту. Пасля Плошчы-2010 асуджаны на чатыры гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Памілаваны ў верасні 2011. Працуе журналістам-фрылансерам.




Хлопчык-беларус дарыць кветкі рускай дзяўчынцы: да Дзён Масквы ў Мінску з'явілася гіганцкае графіці...

...і жарты з яго. Кот у шаліку — нядаўна замаляванае мінскае графіці.








Дызайнер Уладзімір Цэслер прыдумаў вышымайку для праграмістаў. Ён зрабіў гэта па замове Парка высокіх тэхналогій да 10-годдзя яго заснавання.



Амерыканскі часопіс Maxim прызнаў самай сэксуальнай жанчынай свету ў 2016 годзе новазеландскую мадэль Стэлу Максвел.



Жыхарка Мінска вядзе казу ў хлеў у мікрараёне Чыжоўка.



Аварыя ў Навагрудку: машына зляцела з дарогі і ўрэзалася ў веранду жылога дома. Жанчына-кіроўца на вялікай хуткасці не ўтрымала машыну на гравійнай дарозе. Машына разламала плот і перакулілася. Жыхары дома не пацярпелі, раненні атрымалі кіроўца і яе пасажыр. Ратавальнікам прыйшлося выцягваць машыну тросам на эвакуатар.



## Анекдоты і жарты

* * *

— Доктар, дапамажыце мне. У мяне праблема. Я часта памыляюся ў людзях.

— Я не доктар.

* * *

У хуткай будучыні, калі дажывеш да пенсіі, павінен будзеш заплаціць за гэта падатак...

* * *

— Як жывеш?

— Як жыву? Чорныя кошкі перасталі дарогу перабягаць, не бачаць сэнсу.

* * *

«Афігець, назвалі горад Дняпро на Дняпры», — абураюцца жыхары горада Масква на Маскве-рацэ.

* * *

Проста на выхадзе з фітнэс-цэнтра стаіць аўтамат з шакаладкамі. Калі ім не дадуць прэміі за вынаходства вечнага рухавіка, то я нават не ведаю...

## Падслухана

— Стась! Ты па-рускаму можаш кумэкаць?

— Чаго?

— Ну можаш ці не? Рускі язык знаіш?

— Ну, можа, і знаю, алі ні чыста, а што табе ляснула?

— А ні магу разабрацца... Як правільна парускаму пішыцца: июнь ці іюль?

— Ммм... Ну хто яго зная... Неяк жа пішыцца... Ты не пра тое думай! А думай, што твая каса ўжо зара і каўкня! Хто так робя! Хто так кося! Палянь, што з касавідлам зрабілі! Га! А то юнь... юль... Касіць трэба, а ў цябе інструмент няспраўны!

facebook.com/Васіль Грынь

## «НН» сто гадоў з вамі

**Як даглядаць бульбу ў часе росту.** У мокрых і сцюдзёных раёнах бульбу абсыпаюць ці абгортваюць больш, а ў сухіх і цёплых — менш. Праз два-тры тыдні пасля першага абгортвання робяць гэта другі раз. А трэці — калі бульба паднялася на 10—12 вяршкоў, але перад красаваннем, пакуль яшчэ сцябло не агрубела.

«НН», №21, 1911

**Рэдактар «Нашай Нівы» рэпрэзентаваў Беларусь на Сусветным газетным кангрэсе.** Я ў сваім выступе гаварыў пра адказнасць СМІ. Казаў, што расейскія СМІ зусім не аб'ектыўна асвятляюць падзеі ў краінах былога СССР. Што свабода не можа быць «кропкавай»: не можа быць свабоды ў асвятленні адных падзей і несвабоды — у асвятленні другіх. Калі такое дапускаецца, то зона несвабоды будзе распаўзацца і шырыцца, як мы гэта бачылі на прыкладзе беларускіх дзяржаўных СМІ, казаў я сваім расейскім калегам.

«Наша Ніва», 6 чэрвеня 2006


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 07.06.2016.
Замова №2331.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

